**Штэйнер І.Ф.**

Кот на лаўрах: п’еса / І. Ф. Штэйнер. – Мінск, 2013.

Вадэвіль апавядае аб дзіўнай гісторыі, што здарылася на Палессі, і незвычайных учынках людзей, якія трапілі ў зачараванае кола яе ўплываў. У творы ўзнаўляюцца на новым этапе класічныя традыцыі народнай смехавой культуры.

**Вадэвіль у адной дзеі**

**Дзеючыя асобы:**

Першы зяць
Другі зяць
Натарыюс
Апякунка (ветурач Пульхерыя Фемістоклаўна)
Служба аховы (Ён, Яна)
Рэктар прыватнай ВНУ
Варожка
Супрацоўнік ДАІ
Бландынка па аб'яве
Супрацоўніца ЗАГСа
Лідар партыі ММР (Мур-Мур)
Сакратар рэгіянальнага аддзялення СП
Архіварыюс-геральдык
Старшыня гільдыі прадпрымальнікаў
Сваха

*Кожны з акцёраў можа выконваць некалькі роляў, што будзе толькі садзейнічаць і спрыяць агульнай задуме.*

**Пралог**

*Зяці ідуць насустрач адзін аднаму пры закрытай заслоне: вальяжныя, у руках ці зубах папяроса. Дзеянне адбываецца на авансцэне, якая ўяўляецца ўваходам у офіс ці ганкам перад ім.*

**Першы зяць.** Маё шанаванне зяцю нумар два (*жартаўліва кланяецца*). Нідзе ад цябе не схаваешся.

**Другі зяць.** Здароў, здароў, нумар адзін. І ты тут?

**Першы зяць.** Выклікалі. Павесткай. (*З гонарам*) Уручылі пад распіску.

**Другі зяць.** І мяне таксама.

**Першы зяць.** *Паважна дастае паперу, урачыста чытае:* Уважаемый господин (*з гонарам паглядае)*, гм, господин зять номер один (*уздымае ўгору палец*). Имеем честь пригласить Вас в головной офис для публичного оглашения завещания Вашей тещи Зборовской Адели Казимировны и юридического оформления вступления в наследство. Примите искренние уверения в глубочайшем уважении и почтении. Главный нотариус инюрколлегии… подпіс неразборлівы.

**Другі зяць.** І ў што там уступаць? Што там прымаць? Хату, якая стаіць толькі таму, што не ведае, на які бок упасці?

**Першы зяць.** Ці паламаны плот ля лазні над сажалкай, якая даўным-даўно зарасла лазняком і асакою…Там кракадзілы хутка завядуцца.

**Другі зяць.** Ой, праўда. (*уздыхае*) Кажуць, цешча моцна прыхварэла.

**Першы зяць.** І я чуў.

**Другі зяць.** А ці даўно ці ты быў ў яе?

**Першы зяць.** Ды гадоў з пяць ужо.

**Другі зяць.** І я не менш.

**Першы зяць.** А чаго ж да яе ездзіць?

**Другі зяць.** І, праўда, пенсія ж у яе зусім малая, на салярку для майго джыпа не хопіць.

**Першы зяць.** А раней ты адтуль не вылазіў.

**Другі зяць.** Ды і ты не праязджаў міма.

**Першы зяць.** Варта было прыязджаць. Грыбы раслі пад самай хатай, у сажалцы карасі з уюнамі плавалі. Любата.

**Другі зяць.** Ох, і былі часіны. Тады яна мела чатыры каровы, сем свіней, сорак гусей, трыццаць качак. Індыкі і цэсаркі, нібы фазаны, гулялі па двары, курэй дык і наогул не лічылі, яны, нібы вераб'і, лёталі і пасвіліся самі, на ліпах начавалі, як у Індыі.

**Другі зяць.** А цяпер.*( махнуў рукой)*

**Першы зяць.** Праўда… Слухай, а забірай ты ўсё сабе. І хату, і лазню…(*з ухмылкай)* і цешчу з кракадзіламі.

**Другі зяць.** Ну не, мой дарагі. Ты ж хацеў камерцыяй заняцца. Аграсядзібу зрабіць, турыстаў прымаць. Вось і забірай цешчыну спадчыну разам з ёю.

**Першы зяць.** Каб турыстаў сустракаць, трэба харчы. А ў яе з жыўнасці толькі адзін кот застаўся.

**Другі зяць.** Як гэта я пра Максіма забыўся. А ён яшчэ жывы?

**Першы зяць.** Што з ім зробіцца. Каты жывучыя, трывушчыя. Жывы: толькі і цяпер яны і сядзяць удвух на печы, баба і кот, нібы ў той казцы, адзін аднаго саграваюць.

**Другі зяць.** Знаеш што, давай зусім адмовімся ад спадчыны. А то за яе афармленне мы заплацім болей падатку, чым заробім.

**Першы зяць.** Давай. Аддадзім на скарб паньства, як гаварылі польскія мытнікі, калі канфіскавалі ў мяне кантрабандныя цыгарэты.

**Другі зяць.** Давай. Во будзе хохма: кот на скарб паньства.

**Першы зяць.** Гы-гы! Кот у карысць дзяржавы. *(гучыць званок, які запрашае ў офіс).* Але пара. Пайшлі слухаць завяшчанне *(Заслона ўздымаецца).*

**З’ява першая.**

*Нямая сцэна. Усе застылі ў самых неверагодна разнастайных, падчас нават пікантных позах. Ва ўсіх адняло мову: дзеючыя асобы імкнуцца выказаць нешта балючае, а таму важкае і істотнае, жэстамі, мімікай, абліччам, скручаным тулавам.*

**Натарыюс.** Панове! Госпада! Ну што вы так! *(разгублена, убок)* Такога яшчэ ніколі не здаралася ў маёй практыцы за апошнія тры дзесяцігоддзі паспяховейшай дзейнасці на ніве натарыяту.

Панове!!! Таварышы!! Госпада! *(не так упэўнена, штучна кашляе)* Пачынаю спачатку. Яшчэ раз. *(звініць маленькім званочкам, стукае па шклянцы з вадою на стале. Усе ажываюць і паціхеньку, аглядаючыся на ўсіх і саміх сябе, моўчкі, нібы няўцямна, садзяцца на свае месцы, адкуль імгненне назад паўскоквалі і закамянелі ў нямой сцэне).*

Пачынаю яшчэ раз, па парадку. **Ab ovo**, як сказана ў аналах, гэта значыць законах “Рымскага права”. *(керхае, папраўляе каўнерык).*

Прашу ўвагі. Зараз я буду паўторна агалошваць увесь тэкст тэстаменту, бо рэакцыя слухачоў пасля першага прачытання зусім, на мой погляд, неадпаведная. Таму заклікаю ўсіх яшчэ раз уважліва выслухаць і не ўпадаць у ступар, не ствараць нямой сцэны, як у першы раз. Слухаем моўчкі, не перабіваем, эмоцыі, якія ўзнікнуць, старанна хаваем. Усе пытанні, заўвагі, пажаданні выказваць толькі потым, у самым канцы, пасля дэталёвага азнаямлення са зместам тэстаменту. Хто будзе крычаць ці гігікаць, таго вывядзем.

Можа каму-небудзь валяр’янкі накапаць ці ўрача выклікаць?

*(Усе ўдзельнікі нямой сцэны ажылі і ажывіліся настолькі, што пачалі шаптацца між сабою, нешта мармытаць, задаваць пытанні, з падазронасцю паглядаючы на суседзяў, а потым на натарыюса):*

**Галасы.**

- А ці бываюць масавыя галюцынацыі?
- А ці правільна мы ўсё пачулі і зразумелі?
- А ці сапраўдны тэстамент?
- А ці сапраўдны сам натарыюс?

**Натарыюс.** *(рэзка абрывае гамонку)* Сапраўдны! Сапраўдны! Усё сапраўдна! І дакумент. І сам натарыюс *(прыўстае).* Вось і ліцэнзія *(паказвае).* Вось і сам тэстамент. А вось і сапраўдная гербавая пячатка.

**Другі зяць.** А з нечым падобным вы сутыкаліся раней, ці можа чулі ці чыталі ў сваім “Рымскім праве”?

**Натарыюс.** *(гаворыць доказна, каб падкрэсліць сваю значнасць і схаваць яўную няўпэўненасць)* Шмат разоў. Што толькі не траплялася ў нашым жыцці, якія толькі дзівосы з намі не здараліся. А пра сусветную гісторыю я ўжо зусім маўчу.

**Першы зяць.** *(нешта хацеў сказаць, устаў, уздыхнуў)* А-а-а, о-оо *(затым махнуў рукою і з выразнай роспаччу садзіцца).*

**Натарыюс. (***узнёсла, пафасна***)**Good gentle Romans! Romans! Friends! Countrymen! Lend me your ears! I come to bury, Caesar, not to praise him! *(Цытуе Шэкспіра, пасля чаго зніжае пафаснасць*). Добра. Пакольки пытанняў няма, папрашу яшчэ раз цішыні і ўвагі. Я паспрабую паўторна растлумачыць сутнасць справы, бо тут мы пасутнасці маем дзела з дзвюмя завяшчаннямі. Слухаем першае *(чытае):* Инюрколлегия с глубоким прискорбием сообщает, что в городе Лондоне скончался подданный ее королевского величества Адамович Иван Казимирович, 1922 года рождения, уроженец Гомельщины. Согласно последней воле усопшего, все личное движимое и недвижимое имущество, а также банковские счета на общую сумму 1,3 миллиона фунтов стерлингов…

**Галасы.**

- А прычым тут мы?
- Колькі, колькі?
- Дзе? Хто?
- Дзе? Колькі?

**Натарыюс. (***не звяртаючы ўвагі, працягвае)* завещаны его родной сестре Зборовской (в девичестве Адамович) Аделе Казимировне, которая приняла наследство полгода назад.

**Першы зяць.** Што? Мільёны? Цешчы?

**Другі зяць.** Што? Фунты? А якія суадносіны фунта і даляра?

**Першы зяць.** Паўгода… Шэсць месяцаў. І маўчала…

*Цішыня. Усе разгублена пазіраюць адзін на аднаго. Раптам ускокваюць зяці. Гучыць песня Маманцёнка з мультфільма “Мама для мамонтенка”: “Пусть мама услышит, пусть мама придет, пусть мама меня непременно найдет”.*

**Другі зяць.** *(ускоквае)* Дзе мая любімая цешча? Не. Не цешча. Дзе мая родная мамачка?

**Першы зяць.** Хачу да мамы. Яна мне заўсёды была большай мамачкай, чым родная.

**Другі зяць.** Я забіраю дарагую мамачку, Адэлю Казіміраўну, да сябе, бо ў мяне хата большая.

**Першы зяць.** Я забіраю дарагую мамачку да сябе, бо я яе люблю больш за ўсіх на свеце.

**Галасы.**

- Няхай жыве ў нас…
- На беразе рэчкі…
- Да нас, у нас дача харошая…
- Да нас, мы таксама родзічы…

**Натарыюс.** Гэта немажліва, бо яе тут няма. Супакойцеся**.** Гэта не канец справы, гэта далёка не ўсё.

Я сабраў вас усіх для таго, каб давесці да вашага ведама апошнюю волю шаноўнай пані Адэлі Збароўскай, якая перад ад’ездам на Захад дзеля жыццёва неабходнай, аднак у той жа час вельмі рызыкоўнай аперацыі, вырашыла на ўсялякі выпадак распарадзіцца сваёй маёмасцю і зрабіць неабходныя даручэнні, таму прашу ўвагі. Яшчэ раз чытаю завяшчанне Адэлі Казіміраўны. *(усе змаўкаюць).*

Я, Адэля Збароўская, знаходзячыся пры поўным розуме і ў цвёрдай памяці…

**Першы зяць.** Сумняваюся я вельмі. Нармальных цешчаў не бывае…

**Натарыюс.** *(не звяртаючы ўвагі)* з усёй адказнасцю заяўляю: усю нерухомасць, якую мне перадаў мой нябожчык брат, царства нябеснае ягонай душы, уключаючы кватэру на галоўным праспекце сталіцы Брытаніі з пентхаўзам і гаражом на пяць аўтамабіляў, самі аўтамашыны, лецішча на возеры ў Шатландыі з відам на Лохнескую пачвару і з сасновым борам плошчай пяцьдзесят акраў, завод па вытворчасці макаронаў, вілу ў Ніцы…

**Першы зяць.** Ах ты, скнара, такія скарбы мела. А я якраз паўгода ва ўсіх пазычаю грошы на дабіты “Volkswagen”.

**Натарыюс.** *(не звяртаючы ўвагі, працягвае)* і іншыя больш дробныя аб’екты падзяліць наступным чынам…

**Першы зяць.** Толькі б мне… О, Божа, зрабі цуд.

**Другі зяць.** Толькі б мне… Пудовую свечку ахвярую, новую ікону і панікадзіла для сабора замоўлю…

**Натарыюс.** Маёй памочніцы, супрацоўніцы сацыяльнай службы , а па-сутнасці дарагой сяброўцы Марусі, якая даглядала мяне сардэчна, а не па абавязку, пажыццёвая рэнта ў памерах акладаў; грошы ў неабходным аб’ёме пералічыць на ўпарадкаванне могілак у роднай вёсцы, дзе мяне і пахаваць, на рэстаўрацыю царквы і школы там жа, адліўку новых званоў…

**Першы зяць.** І дзе ж яна так награшыла, што і званы новыя трэба?..

**Другі зяць.** Цыц! Могілкі – гэта святое. Тым болей для цешчы.

**Галасы.**

- А нам?
- І мы родзічы.
- І мы вас любім.

**Натарыюс.** Унучкам на вучобу за мяжой і на пасаг. Усе астатнія грошы і маёмасць, пералічаная вышэй і згаданая ў дадатку, завяшчаюцца…

**Першы заяц.** *(не вытрымлівае, ускоквае)* Мне! Я болей за ўсіх любіў цешчу!

**Другі заяц.** *(не вытрымлівае, ускоквае)* Мне! Мяне мамачка больш любіла!

**Натарыюс.** …майму любімаму, дарагому кату Максіму, які, у адрозненне ад усіх прысутных, што сквапна ўслухоўваюцца ў гэтыя словы, любіў мяне проста так, без усялякай выгоды. Саграваў мяне на печы ад добрага сэрца, зусім не думаючы пра грошы, вілы і дачы з відам на кракадзілаў.

**Першы заяц.** Курва!

**Натарыюс.** Што вы сказалі?

**Першы заяц.** Нічога. Гэта па-польску.

**Натарыюс.** Я ведаю.

**Другі заяц.** Сцерва!

**Натарыюс.** Што вы сказалі?

**Другі заяц.** Нічога. Гэта па-руску.

**Натарыюс.** Я ведаю. Чытаю далей. Паколькі Максім не можа да канца зразумець усяго і адразу распарадзіцца спадчынай, апекуном прашу назначыць нашага ветэрынарнага ўрача Пульхерыю Фемістоклаўну, якая лячыла Максіма, даглядала яго, апекавалася ім. І, самае галоўнае, яна валодае ягонай мовай, гэта значыць, зможа зразумець усе ягоныя жаданні і памкненні, а таксама дапаможа наладзіць кантакт з людзьмі. Таму яшчэ вылучыць неабходную суму для набыцця сучаснай ветэрынарнай паліклінікі ў абласным цэнтры, каб даглядаць ката на высокім ўзроўні. Дарагім зяцям за іх любоў і клопаты, за сардэчнасць і ласку выдаць па пяць тысяч фунтаў на дробныя расходы. Прывітанне, зяцькі!

**Першы заяц.** *}разам:* Курва. Ты мяне заўсёды ненавідзела.

**Другі заяц.** *}разам:* Сцерва. Ты мяне ніколі не любіла.

**Натарыюс.** Тэстамент зроблены мною, старэйшым натарыюсам імярэк, дата, месца, подпісы, пячатка, і набывае законную сілу з моманту агалошвання. *(Ізноў нямая сцэна, святло тухне. Гучыць песня «Слушай, теща, друг родной»).*

### З’ява другая

*(Сцэна уяўляе сабою два пакоі, падзеленыя сцяной. У адной першы зяць, у суседняй – другі. Нярвова бегаюць).*

**Першы зяць.** Чаму ж я да яе не кінуўся паўгода таму, калі яна тэлефанавала і прасіла ды гаварыла пра нейкія грошы? Я думаў, звар’яцела старая. Збылася мара ідыёта пазбавіцца жончынай мацеры. Усё прапала. Усё прапала. А я так спадзяваўся.

**Другі зяць.** Ну хто мог такое ўявіць? І дзе мой прыродны розум быў? Збылася мара ідыёта. Усё прапала. Усё прапала. А я так спадзяваўся.

**Першы зяць.** Што рабіць? Што рабіць? Што рабіць?

**Другі зяць.** Што рабіць? Што рабіць? Што рабіць?

**Першы зяць.** А я ж увесь час ваяваў з гэтым дурнем, другім зяцем, думаў – якраз ён галоўная пагроза майму шчасцю і марам. Псоты яму ладзіў, плёткі пускаў, шкоднічаў паціху, цешчу не даглядаў.

**Другі зяць.** А я ж увесь час ваяваў з гэтым дурнем, першым зяцем, думаў – якраз ён галоўная пагроза майму шчасцю і марам. Псоты яму ладзіў, плёткі пускаў, шкоднічаў паціху.

**Першы зяць.** О, Божа! Памажы! Цешчу палюблю, каханку кіну, бо і так ужо надакучыла.

**Другі зяць.** О, Божа! Ратуй! Царкву новую збудую!

*Адначасова бегаюць кожны па сваёй палавіне, махаюць рукамі, нешта шэпчуць – ці пацеры, ці праклёны.* Ах, цёшча! Ах, мамачка! Такое ж прыдумаць трэба.

**Першы зяць.** Я так проста не здамся. Ёсць жа сіла, розум, спрыт, сувязі, нарэшце. Я свайго не аддам. Забяру ўсё, што мне належыць. І не толькі.

**Другі зяць.** Я так проста не здамся. Ёсць жа сіла, розум, спрыт, сувязі, нарэшце. Я свайго не аддам. Забяру ўсё, што мне належыць. І не толькі.

**Першы зяць.** Я маю план. Фантастычны, але рэальны. Інакшым ён не можа быць у гэтай гратэскнай сітуацыі.

**Другі зяць.** Я маю план. Фантастычны, але рэальны. Інакшым ён не можа быць у гэтай гратэскнай сітуацыі.

**Першы зяць.** Каты любяць малако, але карову даіць не ўмеюць. Таму трэба спачатку параіцца з натарыюсам. Не можа быць, каб гэты кручкатвор з прадажнага племені (паглядзіце ж, у іх на самой справе рукі даўжэйшыя, чым у астатніх людзей, каб спрытней грошы заграбаць), не знайшоў якую-небудзь зачэпку, каб выправіць сітуацыю.

**Другі заяць**. Каты ў пальчатках мышэй не ловяць, таму спачатку трэба параіцца з натарыюсам. Не можа быць, каб гэты кручкатвор з прадажнага племені (паглядзіце ж, у іх на самой справе нос даўжэйшы, чым у астатніх людзей, каб лепей грошы чуць), не знайшоў якую-небудзь зачэпку, каб выправіць сітуацыю.

**Першы заяць.** А можа ўзяць у хаўруснікі і гэтага дурня, зайца нумар два. Ён недалёкі, нават дурнаваты, але ягоная подласць і двурушніцтва спатрэбяцца ў гэтай складанейшай справе. Лепш страціць палову, чым усё.

**Другі заяць.** А можа ўзяць у хаўруснікі і гэтага дурня, зайца нумар адзін. Ён недалёкі, нават дурнаваты, але ягоная подласць і двурушніцтва спатрэбяцца ў гэтай складанейшай справе. Лепш страціць палову, чым усё.

**Першы заяць.** Душу несмяротную заклаў бы, калі б хто-небудзь купіў. Бо навошта яна мне ў цяперашніх варунках. З д'яблам здружыўся б, каб толькі той хоць чымсьці дапамог.

**Другі заяць.** Душу несмяротную заклаў бы, калі б хто-небудзь купіў. Бо навошта яна мне ў цяперашніх варунках. З д'яблам здружыўся б, каб толькі той хоць чымсьці дапамог.

*Выходзяць са сваіх пакояў і моўчкі працягваюць адзін аднаму рукі.*

**Першы заяць і другі заяць.** *(разам):* Вялікае гора заўсёды яднае людзей высакародных і пачцівых дзеля велічных ідэй і іх ажыццяўлення.

### З'ява трэцяя

*(Зайцы ў кабінеце натарыюса).*

**Натарыюс.** Слухаю Вас, панове. Я ведаў, што ягамосьці прыйдуць да мяне, бо такія, як вы, на ўсё пойдуць дзеля грошай. Таму адразу да справы, толькі спачатку гляньце на прайс маіх паслуг, магчыма гэта схіліць вас да лаканізму і дакладнага фармулявання просьбаў *(працягвае ім лісток).* Тайм із маней.

**Першы заяць.** *(разгублена)* Гэта ў рублях?

**Натарыюс.** Крыўдзіце. Забіжаеце.

**Другі заяць. (***аглядае прайс***)** І праўда ў яго рукі даўжэйшыя, чым у звычайных людзей. А ў цэлым ён падобны да д'ябла.

**Першы заяць.** *(паглядае з павагай)* І праўда ў яго нос даўжэйшы, чым у звычайных людзей. У профіль ён нечым вельмі нагадвае чорта.

**Натарыюс.** Каб сэканоміць вашы, а значыць, і нашы, у перспектыве, не вельмі вялікія на дадзеную хвіліну, грошы, магу сказаць, што сітуацыя ў цэлым не вельмі радасная.

**Першы зяць.** А што можна зрабіць? Мы гатовы на ўсё.

**Другі зяць.** На ўсё. Доччын пасаг спушчу… Яна прыгожая ў мяне, і так забяруць.

**Натарыюс.** Сумняваюся. Хто цяпер глядзіць на мілы тварык. Толькі ў багацеяў не бывае непрыгожых дочак, а вы пакуль што да іх не адносіцеся…

Памятаю, прыходзіць малады хлопец у сваты. А будучы цесць і гаворыць. Маю дзвюх дачок. За першай пасаг – паўмільёна даляраў. За другой – мільён. Але ў яе адзін недахоп – мае невялікі горб. Якую будзеш браць? Жаніх падумаў і пытае: "А з двума гарбамі ў цябе няма?".

**Першы і другі зяць.** Не. У нас па-чэснаму.

**Натарыюс.** Ну добра, паверым. Давайце да дзела. Слухайце ўважліва, бо два пытанні вы ўжо задалі. Цяпер вы маеце права толькі на адно. Калі адразу не зразумееце і будзеце перапытваць, то заплаціце, як за новую кансультацыю.

**Першы і другі зяці** *(спалохана)* Слухаем, слухаем…

**Натарыюс.** Існуе два варыянты. Раз Максім не можа рэальна прыняць спадчыну і самастойна распараджацца ёю, то трэба зрабіць ўсё, каб апякунка была цалкам на вашым баку. Таму той, каго яна больш палюбіць, мае большыя шансы.

**Першы зяць.** А што яна самая любіць?

**Натарыюс.** Усяго не ведаю, але асабліва захапляецца латынню. Усюды сыпле крылатыя фразы. Цяпер да дзела. Каты ў цэлым параўнальна не вельмі доўга жывуць, таму спадчыну ў перспектыве можна перааформіць на нашчадкаў па першай лініі.

**Першы зяць.** Чыіх нашчадкаў, кацiных ці цешчыных?

**Другі зяць.** А хто можа дакладна ведаць жаданні ката?

**Першы зяць.** Ды з такім доглядам і прафесійнай медыцынай ён будзе Мафусаілам, пражыве тысячу гадоў.

**Натарыюс.** *(не слухае)* Другое. Трэба зрабіць Максіма цалкам юрыдычнай асобай з адпаведнымі дакументамі і паперамі.

**Другі зяць.** Гэта ж кот. Якімі паперамі?

**Натарыюс.** Чым болей, тым лепей. І пасведчане, і дыплом, і атэстат, і вайсковы білет. У такім выпадку ён зможа не толькі аформіць тэстамент, прыняць спадчыну, але і ўласнаручна весці свае справы і нават ажаніцца!

**Першы зяць і другі зяць.** *(разам):* Хто? Максім? Кот?

**Натарыюс.** З юрыдычнага боку хоць вол. Абы былі дакументы. Конь рымскага імператара Калігулы засядаў у сенаце, і ніхто гэтаму ні разу не запярэчыў. Наколькі я ведаю з гісторыі юрыспрудэнцыі, афіцыйна толькі аслам забаранялася займаць прафесарскія кафедры ў сярэднявечных універсітэтах. Але гэты закон цяпер ігнаруецца, прыкладаў таму многа і ў нашым горадзе. А чаму ж тады яму не заняцца бізнесам?

**Першы заяц і Другі заяц.** *(разам):* Каму? Максіму? Кату?

**Натарыюс.** Я толькі тлумачу вам сітуацыю. Заплаціце, калі ласка, за кансультацыі і ўсяго добрага, панове. Калі ж узнікае патрэба складання новага тэстаменту, г.зн. завяшчання…

**Першы заяц.** Ад ката?!

**Натарыюс.** Хоць ад Бабы-Ягі ці ад чорта лысага. Паўтараю: калі ўзнікне патрэба, я заўсёды да вашых паслуг – у якую хочаце пару дня або ночы. Я сплю вельмі пагана.

**Другі заяц.** Баішся грошы ўпусціць?!

**Натарыюс.** Такая наша доля. Бывайце. Вось вам мае візіткі. І не раю вам дапамагаць Максіму знікнуць. Тэстамент і гэта прадугледжвае. Калі Максім прападзе, усе грошы пераходзяць у фонд міласэрнасці. Так што ў вашых інтарэсах, каб *март* не прыйшоў зімою ці кот не трапіў пад аўтамабіль.

**Першы заяц.** *(выходзячы)* У-у, злыдзень. Махляр махляра падмануць хоча. Значыць, дзейнічаем па двух асноўных кірунках. Я вазьмуся, як болей разумны і прыгожы, за апекуна, г.зн. за апякунку.

**Другі заяц.** А я тады вазьму на сябе афармленне ўсіх папер. Атрымаем спадчыну і ўсё падзелім па-брацку.

**Першы заяц.** Канешне. Усё па сумленню. Хаця лепш па-роўну. *(Убок)* Хрэн табе ў вочы. Я сам ажанюся на апекунцы і забяру сабе ўсе грошы.

**Другі заяц.** Мы ж благародныя людзі. У нас цешча са шляхты. Усё па чэснаму. *(Убок)* А я выпішу ўсе паперы і ажаню Максіма на сваёй дачцэ. Паскачаш тады, боўдзіла.

Покуль спрытны,
Покуль дужы,
Для дачкі здабуду мужа.
З-пад зямлі дастану зяця.
Будзе свята ў нашай хаце!

Маю сувязі паўсюды –
Верыць дурань толькі ў цуды!

Дам у лапу – ціха будзе.
Зяця вылузаю ў людзі!

Для дачкі патрэбен муж,
Як для пана капялюш!
Хай жа бог дае Адэлі
І ў касцеле, і ў пасцелі!

**Першы зяць.** Я буду спакушаць жанчыну. Гэта вельмі лёгкая справа, бо няма жанчыны, якая не павядзецца на грошы ці кампліменты. У мяне задача лягчэйшая, бо баб разумных не бывае. Дурасць і жанчына аднаго роду. Буду спяваць ёй пра каханне, а сам зраблю ўсё, што захачу:

Сэрцу цесна ў грудзях,
Быццам птушачцы ў клетцы.
На сцюдзёных вятрах,
Хто яму адгукнецца?

І вяргіня адна
Без увагі завяне.
Гіне ў смутку вясна.
Сэрца прагне кахання.

У адчаі начэй
Сэрцу сніцца дарога.
Чуць бы сэрцу хутчэй
Грукат сэрца другога.

Як аб сценку гарох
Спадзяванні, чаканні.
Як цялушцы мурог,
Сэрцу трэба кахання.

(*Рамансы Р. Барадуліна*)

**Другі зяць.** Я буду спакушаць грамадства і ягоныя інстытуты. І гэтая задача нескладаная, бо ў цэлым яго падмануць прасцей, чым бабу.

**Натарыюс.** *(выходзіць з офіса)* Толькі будзьце вельмі асцярожнымі. Гэта небяспечная справа – ваяваць з катом. Каты ніколі нічога не просяць, яны проста бяруць тое, што ім трэба. У адным

горадзе навасёлы, згодна звычаю, першым ў хату пусцілі ката. Той адразу дзверы зачыніў, замкі памяняў, трэці год сам жыве, нікога не баіцца, усіх пасылае, нават службу аховы.

**Першы заяц.** А як жа ён на вуліцу выходзіць?

**Натарыюс.** А навошта яму вуліца ці пад'езд, дзе можна сутыкнуцца з непрыемнасцямі. Праз фортку адразу на дах лазіць, там гуляе, пентхаўз зрабіў, канцэрты ладзіць замежных музыкаў, конкурсы любоўнай лірыкі "Жарсці кахання". Жыве і не тужыць.

**Другі заяц.** Не, наш не такі, наш рахманы, спакойны, ён жа з Палесся, з вёскі. Наш коцік ніколі не ставіў перад сабою вялікіх мэтаў, планаў. Ён жа беларус. Яго найгалоўная мара - добра выспацца і паесці, паесці – і добра выспацца. Яго ўжо і кошкі не цікавяць.

**Першы заяц.** Не скажы, дружа, я ўжо і сам сумнявацца пачаў.Нядаўна глядзеў па тэлеку, што каты разумнейшыя за людзей, а не гавораць толькі таму, што баяцца, каб іх не прымусілі працаваць. Як арунгатаны на Цэйлоне.

**Другі заяц.** І праўда. Ката ж не запражэш, як сабаку, у сані, і на ланцуг не навяжаш.

**Натарыюс.** Я ж і кажу. Вось прачытаў сёння. (*дастае газету).* Охранники одной их тюрем на северо-востоке Бразилии задержали кота, который пытался доставить заключенным оборудование для побега. К телу животного клейкой лентой были прикреплены несколько полотен для ножовки и сверла, а также мобильный телефон с зарядным устройством. Это он проделывал неоднократно. Из тюрьмы кота выносили посетители. Теперь он передан в один из ветеринарных центров.

**Першы заяц.** Што ж гэта робіцца на свеце?

**Другі заяц.** Божа мой! Каты – ганстэры (*гучыць славутая "Мурка").*

### З'ява чацвёртая

*(Другі заяц і рэктар філіяла прыватнай ВНУ).*

**Другі заяц.** Шаноўны пане акадэмік.

**Рэктар.** Афіцыйна я пакуль толькі дацэнт.

**Другі заяц.** Але ж у вашай візітоўцы…

**Рэктар.** Акадэмік я ў віртуальнай акадэміі даследавання паранармальных з'яў.

**Другі заяц.** Якіх? Якіх? Ненармальных?

**Рэктар.** Ну, як вам даходліва-прасцей растлумачыць… Ну, big foot *(зяць здзіўлена глядзіць на яго),* ну, снежны чалавек, лохнеская пачвара, талеркі лятаючыя, вампіры, зомбі.

**Другі зяць.** А-а-а. Які ж вы разумны, калі ў гэтай херні… гм… гм… хмарні разбіраецеся. Які ж розум трэба мець.

**Рэктар.** *(задаволена)* Што ёсць, то ёсць. Але вернемся да суровай рэальнасці. Якія ў пана праблемы? Людзі, што рэкамендавалі вас *(паказвае пальцам угару),* проста так, тым больш абы каго, пасылаць не будуць.

**Другі зяць.** Хачу свайго блізкага і дарагога родзіча ўладкаваць у вашу багадзельню…Цьфу… Богаўгоднае завядзенне, *(глядзіць на паперку)* alma mater, цьфу, дастала гэтая заморская тарабаршчына.

**Рэктар.** Дык у чым праблемы? Нашы дзверы заўсёды шырока, не, наўсцяж адчынены.

**Другі зяць.** Рады чуць.

**Рэктар.** У наш завочны філіял оксфардска-маскоўскага коледжа імя Дарвіна-Міклухі-Маклая прымаюцца самыя разумныя і падрыхтаваныя абітурыенты, якія, зразумела, могуць аплаціць поўнасцю і ў тэрмін кошт навучання плюс расходы на бібліятэку, лабараторныя заняткі, інтэрнэт, інтэрнат.

**Другі зяць.** *(машынальна)* Апошняе яму не трэба.

**Рэктар.** Такі парадак.

**Другі зяць.** Раз так, то згода.

**Рэктар.** Плюс дабрачынныя ўзносы на барацьбу з метэарытамі і каметамі, з глабальным пацяпленнем і пагрозай новага ледавіка.

**Другі зяць.** *(няўцям)* Дык тое ці сёе?!

**Рэктар.** І тое, і сёе! У нас – сур'ёзная багадзельня… цьфу на вас, навуковая ўстанова.

**Другі зяць.** Я згодны адразу заплаціць за ўвесь перыяд навучання.

**Рэктар.** Ого!! Гэта добры жэст. Але я тым болей не бачу ніякіх праблем.

**Другі зяць.** *(мнецца)* Будучы абітурыент нядаўна атрымаў вялікую спадчыну, зараз актыўна займаецца бізнесам, праводзіць інвентарызацыю гаспадаркі. Таму не зможа фізічна хадзіць на заняткі і своечасова здаваць іспыты. Ды і нервовая сістэма ў яго разладжана, без валяр'янкі не засынае.

**Рэктар.** А грошы ўнесці можа цалкам, за ўвесь перыяд навучання?

**Другі зяць.** Хоць заўтра. Скажыце, колькі і куды?

**Рэктар.** Я з кожным імгненнем пранікаюся ўсё большай сімпатыяй да нашага будучага студэнта. Не сумняваюся ў ягоных здольнасцях і велізарных перспектывах.

**Другі заяц.** Не сумнявайцеся. Вам пашанцавала.

**Рэктар.** А на які факультэт ён хоча?

**Другі заяц.** Няма розніцы. Нам трэба толькі дыплом. Зразумела, мы маглі б купіць і ў падземным пераходзе, але…

**Рэктар.** Абсалютна правільна… У нас можа і крыху даражэй, але затое якія гарантыі і перспектывы. Можна потым у магістратуру і аспірантуру паступіць, дысертацыю напісаць. За грошы, зразумела. Дык якую спецыялізацыю выбралі?

**Другі заяц.** Калі ўсё роўна, то давай гуманітарную, якая нікому ў наш час непатрэбна.

**Рэктар.** Дамовіліся. Заўтра прыносьце ўсе паперы.

**Другі заяц.** А нічога, што сярэдзіна навучальнага года?

**Рэктар.** Я ж сказаў.

**Другі заяц.** А калі ж не ўсе паперы… гатовы?

**Рэктар.** Пачніце з аплаты. Прыносьце квітанцыю, а потым усё дакладзеце.

**Другі заяц.** Зразумеў *(падае яму канверт).* Гэта вам за клопаты і турботы, што адабраў столькі хвілін у будучага акадэміка ненармальных навук.

**Рэктар.** Паранармальных. Але чорт з імі, калі з'явіліся грошы. Высокія людзі *(паказвае пальцам угору)* не памыліліся ў Вас, вы вельмі добра ўсё разумееце, схопліваеце на хаду.

**Другі заяц.** Прабачце, а ці можна паскорыць працэс навучання? Так сказаць, экстэрнам?

**Рэктар.** Завочна на завочным? Гм… Ёсць і такі варыянт. Праўда, яшчэ эксперыментальны, таму патрабуе (*мнецца*) пэўных выдаткаў.

**Другі заяц.** Згода. *(Падае канверт).*

**Рэктар.** Пакладзіце на стол. Як жа прозвішча будучага свяціла навукі?

**Другі заяц.** Глінскі-Папялінскі. Быў такі ягоны слаўны продак, пра яго яшчэ казка была. Наш герой са шляхты.

**Рэктар.** Можа і герб мае? *(крыху здзіўлена прыўздымае бровы і затым вяртае ў папярэдняе становішча).*

**Другі заяц.** Мае, мае. А што гэта такое?

**Рэктар.** Цудоўна. Запомню і аддам адпаведныя распараджэнні. Сам буду асабіста кантраляваць.

**Другі зяць.** Дзякую. Наша радасць не мае межаў, як і ўдзячнасць. Хаця апошнюю ўсё-такі трэба памятаць. Як жа мы будзем з вамі супрацоўнічаць?

**Рэктар.** З таго часу, як чалавецтва прыдумала грашовыя знакі – гэта ўжо не бінам Ньютана.

**Другі зяць.** Зразумеў. Дазвольце адкланяцца.

**Рэктар.** Усяго добрага. Чакаем заўтра. *(Гладзіць канверты, потым падыходзіць да зяця, абдымае. Даверліва)* А самі вы не хочаце стаць студэнтам? Так сказаць, два ў адным. Прымем вас з радасцю на любы курс і факультэт, толькі плаціце.

**Другі зяць**. Не! Вярнуцца ў маладыя гады – з задавальненнем. Але дыплом мне не патрэбен. Тым болей гуманітарны.

**З'ява пятая**

*(Пакой абстаўлены ў поўнай адпаведнасці з класічным успрыняццем падобных: паўзмрок, круглая лямпа, драпіроўка, чэрап, можна шкілет прыцягнуць, выявы кажаноў над камінам. Першы зяць і Варожка.)*

**Варожка.** І што вас да мяне прывяло?

**Першы зяць.** Гэта ўсё ваша? *(паказвае на дыпломы на сценах, граматы, пасведчанні ў рамках).*

**Варожка.** *(задаволена і пыхліва)* Я патомная гадалка і прадказальніца ў сёмым калене. Маё майстэрства і талент так высока цэніцца ў Еўропе, што мая слава і вядомасць пашыраецца амаль на ўвесь свет. Я сапраўдны член акадэміі парапсіхалогіі акультных навук, вось мой дыплом. А тут *( паказвае)* мае атэстаты і граматы, пасведчанне аб перамогах.

**Першы зяць.** Ух ты!

**Варожка.** А таксама я з'яўляюся ўдзельніцай шматлікіх семінараў і сімпозіўмаў па чорнай і белай магіі.

**Першы зяць.** І гэта перадаецца па спадчыне?

**Варожка.** Так. Усе мае бабулі былі патомнымі варожкамі, знахаркамі і гадалкамі. Некаторыя з іх цудам вырваліся з лап інквізіцыі, а то былі б спалены на кастры.

**Першы зяць.** Шкада, што і заходняя пунктуальнасць дапускае збоі.

**Варожка.** Што вы там бармочаце?

**Першы зяць.** Дык чаму пытаешся ты, такая разумная і *проницательная* ўнучка бабы Ягі, чаго я хачу, што мяне да цябе прывяло? Ты павінна была яшчэ за дзвярыма спазнаць мяне, і, не

пытаючыся, даць параду ці дапамагчы ў маёй справе. Шкада, што ў нас не было інквізіцыі і цябе саму не спалілі.

**Варожка. Тоже мне бином Ньютона.** Ды што там здагадвацца ці варажыць: усе да мяне прыходзяць або па каханне, або па грошы, зрэдку па здароўе.

**Першы заяц.** І вы ім даеце?

**Варожка.** Даём.

**Першы заяц.** Што?

**Варожка.** Надзею. Калі заплацяць, зразумела. А далей сам-сам-сам. Мы толькі падсоджваем на першы сук, а далей сам узбірайся на дрэва.

**Першы заяц.** Усяго?! Толькі спадзяванні. За такія грошы?

**Варожка.** А вы што думалі?! Надзея так дарага каштуе. Надзея – рухавік прагрэсу, з яе ўсё пачынаецца, хаця і так зразумела, што канец зараджаецца ў кожным пачатку. Яны пераплялiся, нібы ногі Мерылін Манро.

**Першы заяц.** І тут філосаф. Куды ад іх прамудрасці схавацца?

**Варожка.** З чэрапам і косткамі па-іншаму і нельга.Дыялектыка.

**Першы заяц.** Таксама мне Гамлет мясцовага разліву. Мне не сентэнцыі, не развагі, а вынік трэба. Дзеянне хоць бы. А філасофстваваць у нас усе майстры: і палітыкі, і бандыты. Ды я і сам майстар памудрагеліць пасля літру віскі і клешняў смажаных амараў дзе-небудзь на Гаваях.

**Варожка.** Ну, у такім выпадку… *(мяняецца)* Што ж вы адразу не сказалі, што вы – **vip** кліент?

**Першы заяц.** (*задаволена*) Што ёсць, то ёсць. Ты ж сама была павінна здагадацца.

**Варожка.** *(раскідваючы карты. Гучыць песня на словы Л. Дранько-Майсюка “Цыганка”).* Нешта я добра не зразумела сітуацыі. Венера ў сузор’і Меркурыя. Жарсць і золата. Тут і грошы, і любоў.

**Першы заяц.** Абсалютна правільна. Любоўныя грошы ці грашовае каханне, як вам даспадобы.

**Варожка.** Тады ўсё зразумела. Я неяк ад гэтага адвыкла, бо цяпер звычайна альбо… альбо. Што ж на першым месцы паставіць?

**Першы заяц.** Канешне, грошы. З вашай мудрасцю ды яшчэ пытацца. Гляньце на мяне, хіба я падобны на семнаццацігадовага дурня, закаханага ў ямачку на шчочках не менш дурнаватай асобы супрацьлеглага полу. Трэба грошы! І толькі грошы. Але праз каханне. Ну, шлях да грошай ляжыць…

**Варожка.** Як шлях да сэрца мужчыны праз страўнік?

**Першы зяць.** Цяперашнія жанчыны ведаюць больш кароткую і надзейную дарогу.

**Варожка.** Грошы заўсёды ідуць да грошаў, а таму беднякі – бяднеюць, а багатыя – багацеюць. Пра гэта яшчэ пісаў Ламаносаў – **сколько в одном месте убудет, столько же в другом месте присовокупится.** Можа фота ахвяры прынеслі?

**Першы зяць.** Вось.

**Варожка.** Ой, і спалохацца можна. Пакіньце мне, я кліентаў буду пужаць. Прыдуць мо, накінуць грошай трохі. Давай, плаці.

**Першы зяць.** Добра, добра. А ты пачынай свой сеанс.

*(Сцэна варожбы, чаргаванне святла і цемры, гукі дзіўныя і страшныя, трэск, удары, бліскавіцы. У цемры гучыць голас пачвары:*

Трэба ноччу забіць чорнага казла і яго крывёю асвяціць магілу маладога наўца, г.зн. нябожчыка, пакойніка, затым пяць разоў у самую страшэнную пору прыходзіць сюды і шаптаць пацеры. Тады магія спрацуе. Яна будзе тваёй. Уся сіла цёмная табе дапаможа:

Ценіцца над кнігай пража
З неспасціжных словаў, рухаў,
Крэсліць кола, штосьці кажа,
Кліча з пекла ўладцу духаў,
Кажа: “Раз непалахлівы,
Роспач зніме як рукою.
Тут вось чорны кот мурклівы.
Забірай ката з сабою.
Кроч дарогай – ля дарогі
Ёсць капліца, што ўчарнела,
Да капліцы без трывогі
Кроч і ў дзверы грукай смела.
Хтосьці адчыніць дзверы сцяты,
Дасць далонь – не прэчся ў спудзе,
На далонь яму ката ты
Пакладзі, чакай, што будзе.
Рупся, бо як заспявае
Певень, духі згубяць змогу”.

(*Фрагмент з балады Яна Баршчэўскага*).
*Шум сціхае, і ў жудаснай цішыні чуецца голас):*
Гора тым, хто жыве на зямлі.
**Варожка.** *(да зляканага зяця)* Чулі?
**Першы зяць.** *(праз сілу ківае)* Ігі.

**Варожка.** Будзеце самі рабіць закляцце ці нам даручыце?

**Першы зяць.** Вам! Вам!

**Варожка.** Ну то добра. Плаці грошы за клопат, за рызыку, за жыццё. Як яе зваць? Ахвяру нашу?

**Першы зяць.** Апякунка.

**Варожка.** Што вы вярзеце?

**Першы зяць.** Пульхерыя Фемістоклаўна.

**Варожка.** Пульхерыя Фемістоклаўна? А! Гэта тая, што латынь любіць! Ну, гэта лепей. Хоць усё роўна. Зачарую ўсіх на грошы, на вялікія грошы, можа і мне што-небудзь перападзе. А як будуць грошы, тым больш, вялікія, тады і любоў знойдзецца. Вучы латынь, дурань!..

*(Усё хаваецца ў дыме).*

## З'ява шостая

*(Другі зяць і Супрацоўнік ДАІ).*

**Супрацоўнік ДАІ.** Ну і што вы хацелі? Паўтарыце, толькі выразна і без цягамоціны.

**Другі зяць.** Ну, як вам растлумачыць, паперы, дакументы.

**Супрацоўнік.** Што, машына крадзеная?

**Другі зяць.** Вы што, толькі з салону. Паглядзіце дакументы.

**Супрацоўнік.** Якраз з гэтых салонаў і паступае больш за ўсё левых аўтамабіляў. *(кідае грэблівы погляд на паперы)*

**Другі зяць.** Нам *(паглядвае па баках)* правы трэба.

**Супрацоўнік.** Што? Не зразумеў.

**Другі зяць.** Ну, **pravo jazdy, permis de conduire**, вадзіцельскае пасведчанне.

**Супрацоўнік.** А што, у тым жа салоне, дзе бралі аўтамабіль, не маглі купіць?

**Другі зяць.** Там і купляць не трэба. Вы што, не чулі іх слоган: Кожнаму, хто купіць "Mersedes" – правы бясплатна.

**Супрацоўнік.** Дык у чым справа?

**Другі зяць.** Ім фатаграфія не спадабалася. Параілі да вас звяртацца.

**Супрацоўнік.** Дык што там з фота? Жанчынам вельмі часта не падабаюцца ўласныя фатаграфіі, з-за гэтага яны шмат разоў мяняюць пасведчанні.

**Другі зяць.** Я ведаю.

**Супрацоўнік.** Выкарыстайце мажлівасці фотошопа і вы атрымаеце цуд. Можна зняць з яе хеджаб, акуляры, намаляваць бараду, вусы…

**Другі заяц.** Вусы ёсць, але яны якраз і шкодзяць. Ды і наогул, справа тут у іншым. І ўсё выглядае больш складаным.

**Супрацоўнік.** Няма нічога на свеце, што не пакарылася б савецкім людзям.

**Другі заяц.** Я разумею. Нам проста трэба пасведчанне вадзіцеля. Проста так. Ну, не зусім проста так. Наадварот, зусім не задарма.

**Супрацоўнік.** Грамадзянін, перастаньце мне галаву дурыць. Вы што, п'яны? Відаць па носе. А ну, дыхні!

**Другі заяц.** Нас тут не разумеюць. А яшчэ савецкія людзі. Пойдзем у пераход, там вырашым усе праблемы. *(Напявае)* **Ухарь-купец тряханул серебром: Нет? И не надо! Другую найдем!**

**Супрацоўнік ДАІ.** Не спяшайцеся. Пачакайце. Давайце пагаворым яшчэ раз. *(Ідзе сцэна фоташопу, калі да аблічча ката дабаўляюць чалавечыя рысы).*

## З'ява сёмая

*(Першы заяц і Апякунка)***.**

**Першы заяц.** Ад усяго сэрца вітаем вас у новай прыгожай клініцы, да стварэння якой і мы прыклалі руку.

**Апякунка.** Дзякуй, дзякуй. А вы хто?

**Першы заяц.** Дарагая вы наша! Глыбокапаважаная яснавяльможная пані Пульхерыя Фемістоклаўна! Ave! я вельмі рады бачыць вас! А з якой радасцю і хваляваннем я называю ваша імя, якое так глыбока і ўсебакова характарызуе вашу адметную асобу і бацьку вашага, Фемістокла. Я градзірую гэтыя гукі, бо нездарма ж сказалі мудрыя – nomen est omen.

**Апякунка.** *(здзіўлена)* А вы што, як я і як мой бацька… Хіба вы яго ведалі? І сапраўды латынь любіце?

**Першы заяц.** Не паверыце, жыву ёю. (*чытае*) Лінгва лаціна нон пеніс каніна. Лічу, што болей дасканалай і ўзвышанай мовы, чым лацінская, не было на свеце. І не будзе, бо ніводная не змагла спалучыць лаканізм гучання і глыбокую мудрасць. Вось згадаем: **Mens sana in corpore sano** – У здаровым целе здаровы дух.

**Апякунка.** У Ювенала…

**Першы заяц** *(заяц уздымае бровы ў здзіўленні)* Каго? Каго*?*

**Апякунка.** У Ювенала. Паэт такі быў. У яго гучыць крыху інакш: **Orandum est ut sit mens sana in corpore sano** – трэба маліцца, каб у здаровым целе з'явіўся здаровы дух. Таму і вам трэба крыху падправіць…

**Першы зяць.** *(перабіваючы)* Дух ці здароўе?!!

**Апякунка.** А гэта вы павінны самі адчуваць, бо мы заўсёды маем схільнасць да таго, чаго нам не хапае.

**Першы зяць.** Вы такая разумная, хоць і маеце пастаянны клопат з жывёлай, скаціну лечыце…

**Апякунка.** А што вас яшчэ трывожыць, што баліць?

**Першы зяць.** Цаню ваш тонкі і глыбокі гумар…

**Апякунка.** Раз вы так загаварылі, то скажу і я ў вашым стылі. Гумар падобны пенісу: чым танчэйшы, тым менш каціруецца.

**Першы зяць.** Успрымаю ўсё як дасканалы жарт. Магу і сам распавесці анекдот па гэтай тэме. Слухайце. – Заходзіць ветэрынар да ўрача і ў адказ на звыклае пытанне – Што баліць? – незадаволена бурчыць: Калі я заходжу у хлеў ці ў клетку, то я не пытаюся ў сваіх пацыентаў, а проста стаўлю дыягназ і лячу іх. Урач, падумаўшы, дае нейкія пігулкі з цыдулкай ветэрынару і развітваецца. Той разгортвае паперу, а там напісана – піць тры дні, калі не дапаможа, прырэзаць. Што скажаце?

**Апякунка.** Скажу, што нават веданне латыні не перашкаджае некаторым асобам заставацца асламі.

**Першы зяць.** *(доўга і пакутліва ўспамінаючы)* Тады **dura lex, sed lex**.

**Апякунка.** Ваў?! А што ў гэтым выпадку значыць **dura**?

**Першы зяць.** Дура і ёсць дура. Хоць у нас, хоць у лацінян.

**Апякунка.** Dura на латыні – суровы. Дык што ў вас за праблемы. Толькі без дуры па-руску. Дура, по-русски говоря, не такая уже и дурра. А дурак – это уже совсем другое дело.

**Першы зяць.** Ну, тады гэта… *(падглядвае запіску).* Febris erotica.

**Апякунка.** Што? Любоўная трасца паводле студэнцкага фальклору. А прычым тут ветэрынар?

**Першы зяць.** Яшчэ Пушкін гаварыў**,** што кот, які ходзіць налева, заўсёды расказвае казкі. Я пра гэта і хацеў пагаварыць *(дастае кветкі і цукеркі з шампанскім).*

**Апякунка.** А можа ў вас зусім не febris erotica (калі такі тэрмін існуе), а Delirium tremens, г.зн. белая гарачка ці проста белы конь.

**Першы зяць.** Да вы што, я не п’ю, зусім.

**Апякунка.** Бачу. І ацаніла. Тым больш як урач па скаціне.

**Першы зяць.** Праўда. Не п’ю зусім. Ужо пяты дзень.

**Апякунка.** А чаго тады лухту вярзеш?

**Першы зяць.** Ад кахання. Закаханы заўсёды вар’ят. Таму ад дурасці, што вынікае з любові.

**Апякунка.** Што? На градуснік. *(падае велізарны тэрмометр).*

**Першы зяць.** Зразумеў, знікаю. Але не надоўга. Я хутка вярнуся.

**Апякунка.** Забяры свой венік. Яны што, звар'яцелі зусім? Што здарылася з людзьмі? Ніколі ў мяне не было столькі дзіўных пацыентаў, як за сёняшні дзень. Цікава... Што гэта значыць? *(Звоніць па селектары ахове)* Зайдзіце да мяне. *(Ахоўнік заходзіць)* Што тут такое ў вас творыцца?

**Служба аховы.** Я і сама не ведаю. Гэты чалавек мяне ўжо чацвёрты дзень шантажуе. Пытае ўсё пра вас – дзе жывеце, што любіце, ваша хобі і г.д. Клапоціцца пра здароўе ката Максіма, прынёс спецыяльна распрацаванае меню для яго, служба дастаўкі прыцягнула некалькі скрынак бананаў, ікры, шампанскага, усё, сказалі, для ката.

**Апякунка.** Што? Бананы для ката? Шампанскае Максіму?

**Служба аховы.** Сказалі, для павышэння ўзроўню гемаглабіну ў крыві, узняцця агульнага тонусу падчас дэпрэсіі і развіцця разумовых здольнасцей.

**Апякунка.** У каго? Хаця што тут пытацца, у гэтым маюць патрэбу ўсе.

**Служба аховы.** Ён і аркестр наняў, каб кату ігралі калыханкі. І мышэй жывых прыносіць.*( гучыць калыханка).*

**Апякунка.** Зусім звар'яцелі. Ды Бог з вамі. Дурэйце з раскошы. Дзе бананы з ікрой? Дзе шампанскае? Французскае!

### З'ява восьмая

*(Другі зяць і супрацоўніца ЗАГСа).*

**Супрацоўніца ЗАГСа.** Які вы дзіўны і нягеглы. Я ў дзесяты раз вам тлумачу, што падобныя заявы кліенты падаюць толькі асабіста.

**Другі зяць.** Дык ён яшчэ вельмі маленькі.

**Супрацоўніца.** Тады няхай бацькі звяртаюцца. Вы бацька ці сваяк яго, гэтага Максіма?

**Другі зяць.** Не.

**Супрацоўніца.** А дзе бацькі?

**Другі зяць.** Няма.

**Супрацоўніца.** Памерлі?

**Другі зяць.** А хто іх ведае. Хутчэй за ўсё бадзяюцца недзе па свеце.

**Супрацоўніца.** А можа апякун ёсць?

**Другі зяць.** Апякунка ёсць.

**Супрацоўніца.** Дык тады хай яна і звяртаецца. Тым болей, што паколькі хлопчык яшчэ маленькі, то можна пачакаць. А ў школу і садзік і так бяруць, са спраўкамі.

**Другі зяць.** Дык нам у інстыту трэба.

**Супрацоўніца.** Што вы вярзеце?

**Другі зяць.** А потым войска і ажаніцца.

**Супрацоўніца.** Вы свае недарэчныя жарты кіньце. Давайце пасведчанне аб нараджэнні, атэстат, іншыя паперы, а потым мы самі зробім запыты, пашлем іх па месцы нараджэння, каб знайсці пярвічную спраўку.

**Другі зяць.** Дык я і прыйшоў да вас, каб здабыць гэтую даведку.

**Супрацоўніца.** Добра. Зразумела. Тады скажыце, у якім раддоме ён нарадзіўся?

**Другі зяць.** У хлеўным ці крапівінскім, хто ж гэта ведае.

**Супрацоўніца.** А дзе ж такія раддомы?

**Другі зяць.** Усюды. (*Паўза. Аглядае памяшканне*). Нешта я гляджу, мала тэхнікі ў вас. Усе пішуць, як і ў мінулым стагоддзі, нейкія паперы.

**Супрацоўніца.** Слабое фінансаванне.

**Другі зяць.** Я і кажу. А такую вялікую справу робіце.

**Супрацоўніца.** Хто гэта цэніць.

**Другі зяць.** Мы вырашылі кампутыразаваць ваш аддзел, г.зн. узяць над вамі шэфства.

**Супрацоўніца.** Ой, так нечакана. Я і не ведаю.

**Другі зяць.** Што тут ведаць. Зробім вам праграму, установім тэхніку, і тады хай ваш айпод і іншая тэхнічная нечысць шукае ўсе раддомы, і хлеўныя, і крапівінскія, а вы толькі будзеце атрымліваць чыстыя паперы. Згода?

**Супрацоўніца.** У такім выпадку *(вагаецца)* згода.

**Другі зяць.** Заўтра і пачнем *(нібы выпадкова).* Скажыце, а ўступаць у шлюб можна па спраўцы, заверанай натарыюсам, без прысутнасці самога жаніха?

**Супрацоўніца.** Будзем думаць.

**Другі зяць.** Добра. Ідзем, выберам месца для кампутараў. А праўда, што ў работнікаў загса алергія на шампанскае?

**Супрацоўніца.** Не! Хто вам такое сказаў?

**Другі зяць.** Я так і ведаў, што брэшуць.

**Супрацоўніца.** Брахня. Калі прынясеце шампанскае, то нашыя супрацоўніцы адзела такое вам пакажуць (*ідуць сцэны танцаў).*

## З'ява дзевятая

*(Першы зяць і сваха)*

**Сваха.** *(спявае)* **И трудяся день-деньской, продолжаю род людской.**

**Першы зяць.** Вітаю чалавека, якому пагана на душы, калі іншым добра…

**Сваха.** Не зразумела?..

**Першы зяць.** Ну, халасцяку заўсёды добра. Менавіта таму яго і хочуць захамутаць, ажаніць. Каб і яму было пагана, як і ўсім.

**Сваха.** Такая доля людская. А без нас і зусім чалавецтва прапала б, знікнуў бы род чалавечы. Таму і трэба нечым ахвяраваць, дробным такім, як свабода, дзеля вялікай і высакароднай мэты.

**Першы зяць.** Дзіўная логіка, калі жыццё ўспрымаюць як дробязь.

**Сваха.** Але на месцы зніклага жыцця павінна з'явіцца новае. І вось мы тут заўсёды прыходзім на дапамогу. Нерашучым усяляем упэўненасць, нямоглым – сілу, недалёкім – розум і спрыт.

**Першы зяць.** І сапраўды можаш нешта зрабіць? А то ніхто пакуль што не праспрыяў, хоць столькі грошай ляснула.

**Сваха.** Ды з тых, хто здабыў шчасце сямейнага жыцця з маёй дапамогай, можна цэлы мікрараён засяліць.

**Першы зяць.** Няўжо мікрараён?

**Сваха.** Нават райцэнтр. І надзвычай вялікі працэнт вельмі ўдалых шлюбаў, толькі 10 % разводаў, калі ў цэлым – 50 % па рэгіёну.

**Першы зяць.** Развод нас будзе цікавіць пасля. Пакуль трэба толькі заключыць шлюб.

**Сваха.** Ёсць кандыдатура ці пашукаць? *(Дастае альбомы)* Вось айчынная прадукцыя, вось з недалёкага замежжа, вось з Захаду, вось з Усходу. Вось расцэнкі.

**Першы зяць.** *(гартае)* Цікава, цікава. Вось гэтыя фота адкладзіце на потым, яшчэ да іх вярнуся.

**Сваха**. Хочаш паглядзець жыўцом тавар?

**Першы зяць.** Угу… (*міма зяця праходзяць элегантныя маладыя дзяўчаты. Ён цяжка ўздыхае)* але, на жаль, аб'ект зацікаўленасці ў нас ужо прысутнічае. Трэба ім авалодаць.

**Сваха.** За гэтым не стане. Жанчыны падзяляюцца на дзве катэгорыі – жанчыны і не жанчыны. Твая да якіх адносіцца?

**Першы зяць.** Да апошніх.

**Сваха.** Гэта ўжо лепш. Значыць, яна такая ж дасканалая, як і ты. Падобны факт як ускладняе, так і аблегчвае задачу. Яна любіць уладу?

**Першы зяць.** Яшчэ як.

**Сваха.** Усе жанчыны па сваёй прыродзе любяць кіраваць.

**Першы зяць.** Згода. Ох, ведаю.

**Сваха.** Толькі адны імкнуцца стаць каралевай свету, калектыву, установы, вну, іншыя – толькі царыцай у ложку.

**Першы зяць.** Першы варыянт.

**Сваха.** Фота ёсць? *(Зяць падае)* Найперш патрэбна выснова, ці належыць яна да жанчын наогул.

**Першы зяць.** Па пашпарту жанчына, пол жаночы. Сам бачыў. Вось фота.

**Сваха.** Ой, дык тут даплачваць трэба. Грошы маеш? Мая кантора сур'ёзная, мы з замежнымі працуем, таму бярэм толькі зялёныя, бо зарэгістраваны на Мальце.

**Першы зяць.** Нічога не пашкадую, усю гаспадарку спушчу. Толькі давядзіце да фіналу.

**Сваха.** У сэнсе да вянца?

**Першы зяць.** Хоць да Загса.

**Сваха.** Запаўняй анкету, плаці аванс і прызначай дзень шлюбу.

**Першы зяць.** Так хутка.

**Сваха.** Плаці, а то потым ад шчасця галаву згубіш і забудзешся разлічыцца.

**Першы зяць.** Азалачу. Але калі што, глядзі. А то мне адна ўсяго наабяцала і нічога не зрабіла. Спалю варожку, заб'ю, як таго казла.

**Сваха.** Якога казла? Што ты пляцеш?

**Першы зяць.** Гэта я так. Пра некаторых асобаў. Зрабі ўсё добра, а я аддзячу, адраблю.

**Сваха.** Усе вы так гаворыце. А потым, калі даб'ецеся свайго, і следу не застанецца. Вядома, мужчына.

**Першы зяць.** Я не такі. Я высакародны, са шляхты. Я звык плаціць. У нас, арыстакратаў, чэсць на першым месцы.

**Сваха.** Ну-ну. Пайшлі абмазгуем гэную справу, не можа быць, каб я што-небудзь не прыдумала. Графінь замуж аддавала, маркізаў жаніла, а цябе… *(зняважліва)* арыстакрата…

### З’ява дзесятая

*(Другі заяц і лідар партыі ММР).*

**Другі заяц.** Добры дзень. Скажыце, куды я трапіў?

**Лідар.** А куды вы цэліліся? Гэта значыць, што ці каго вы тут шукалі?

**Другі заяц.** Партыю ММР.

**Лідар.** Значыць, вы трапілі ў яблычка. Вы знаходзіцеся якраз у офісе партыі ММР.

**Другі заяц.** Слава Богу. Можна прысесці, а то ногі збіў, шукаючы вас. Тут гэтых партый нібы восенню апенькаў на трухлявым пні. І ўсе спакушаюць перспектывай блізкай і не вельмі, але заўсёды вясёлай і радаснай. Таму я выбраў толькі вас.

**Лідар.** Надзвычай вам удзячны. Але, дазвольце пацікавіцца, чаму менавіта нас?

**Другі заяц.** Назва нам вельмі падыходзіць – Мур-мур-мур.

**Лідар.** Не мур-мур-мур, а Эм-Эм-Рэ, г.зн. Маладэмакратычны-малаліберальны-рух. Для юных партыйцаў – мэтанакіраваны маладзёвы рух. Хочаце азнаёміцца з праграмай?

**Другі заяц.** *(спалохана паглядае тоўстыя стосы паперы)* Не! Не! Па дарозе да вас я столькі начытаўся і наслухаўся, што ўжо падумваў стварыць уласную. Але потым вырашыў забегчы да вас, вельмі мне ўжо назва імпануе.

**Лідар.** Прыемна чуць з вуснаў такой паважанай асобы. Дык вы хочаце стаць членам перадавога атрада ў барацьбе за шчасце людзей і ператварэння нашага краю ў сучаснае Эльдарада?

**Другі заяц.** А колькі ў вашай арганізацыі чала... кх, кх, членаў?

**Лідар.** Гэта тайна. А чаму лічбы вас так трывожаць?

**Другі заяц.** Я баюся, што калі і я ўступлю, то колькасць арганізацыі павялічыцца роўна ўдвая.

**Лідар.** Цаню гумар, але нашто крыўдзіць нашу самабытную і паважаную партыю. Мы зусім не тапчаннага тыпу, а ў будучым, зусім недалёкім, будзем партыяй парламенцкай, адказнай за долю народа.

**Другі заяц.** Тапчаннага? Гэта значыць, што ўсе члены могуць размясціцца на адным тапчане? Ну, нас такія дробязі зусім не цікавяць. А пасведчанні ў вас ёсць?

**Лідар.** Крыўдзіце. Мы ж сур’ёзная арганізацыя *(паказвае).*

**Другі заяц.** Ого. Сапраўды. Добра. Мая давераная асоба хоча ўступіць у вашу тапчанную таемную арганізацыю Мур-мур і ўнесці першы ўзнос. Гэтага хопіць *(паказвае на паперцы лічбу).*

**Лідар.** У рублях?

**Другі зяць.** Крыўдзіце.

**Лідар.** Дык можа шаноўнаму пану, прабачце, не маю гонару ведаць імя і імя па бацьку нашага ганаровага ўжо з гэтай хвіліны сябра, недастаткова проста быць звычайным шарагоўцам, давайце мы ўвядзем яго ў склад рады, а затым можа выбярэм яго вождем, прабачце, як прозвішча нашага будучага лідара…

**Другі зяць.** Глінскі-Папялінскі.

**Лідар.** І прозвішча надзвычай запамінальнае, што для нашай справы вельмі актуальна, праўда, крыху акцэнт насцярожвае. Дык выбярэм яго намеснікам.

**Другі зяць.** Не. Пакуль што не трэба. Няхай першы час будзе радавым. Вы толькі дайце нам пасведчанне і надрукуйце ў прэсе, што ў вас з'явіўся яшчэ адзін ганаровы член.

**Лідар.** Усё будзе зроблена. Пасведчанне будзе праз імгненне. Давайце болей дакладныя дадзеныя. Як зваць нашага лідара? А, прабачце, узносы і ахвяраванні будуць перадавацца праз банк ці гатоўкай?

**Другі зяць.** Як скажаце.

**Лідар.** Які сёння цудоўны дзень. А праграму партыі ўсё ж захапіце з сабою. Не хочаце? Ну і не трэба.

**Другі зяць.** А тут якія ўстановы па суседству?

**Лідар.** Грамадская арганізацыя "Рэгіянальнае аддзяленне Саюза пісьменнікаў".

**Другі зяць.** Скарыстаемся мажлівасцю.

### З'ява адзінаццатая

*(Першы зяць і Апякунка).*

**Першы зяць.** *(кідаецца ў ногі)* Ратуйце! Толькі ад вас залежыць маё быццё. Толькі вы можаце рашыць адвечное быць альбо не быць.

**Апякунка.** *(спалохана)* Што з вамі? Ад каго вас ратаваць? За вамі гоняцца?

**Першы зяць.** Мяне гоніць каханне. Таму мне нідзе няма спакою. Я *(падглядвае ў паперку)* - Меджнун, сімвал усіх закаханых, якіх злая доля гоніць па свеце, пакуль высакародная смерць не спыніць іх пакуты…

**Апякунка.** Ах, гэта вы, стары вар'ят. Тады выходзіць, што я – Лейла.

**Першы зяць.** Лейла, Лейла. І Джульета. І Наташа. І Алеся. Вы сімвал кахання, чыстага, узвышанага, велічнага і бескарыснага. І толькі вы можаце мне вярнуць надзею.

**Апякунка.** І даўно гэта з вамі?

**Першы зяць.** Вечарам будзе восем дзён.

**Апякунка.** Значыць, справа сур'ёзная.

**Першы зяць.** Надзвычай.

**Апякунка.** Сапраўды. Бо нават вострае рэспіраторнае захворванне вылечваецца за тыдзень. Дык якая ў вас хвароба?

**Першы зяць.** Дык гэта і ёсць хвароба – каханне. А я сказаў вялікі Пушкін, **Болезнь любви неизлечима.**

**Апякунка.** Вы выглядаеце у такім плане зусім здаровым чалавекам. Я маю на ўвазе зусім іншае.

**Першы зяць.** Што? Кажыце, не цягніце. **Промедление смерти подобно.**

**Апякунка.** А гэта і сапраўды невылічна. Бо тычыцца таго, чаго ў вас зусім няма.

**Першы зяць.** *(спалохана)* І што гэта такое, кажыце па латыні, я цяпер ужо разумею. Магу ехаць у Лацінскую Амерыку і гаварыці там з лацінянамі.

**Апякунка.** Не, скажу па-нашаму. Сумлення няма ў вас, таму вы звычайны **прайдзісветус вульгарыс**.

**Першы зяць.** Гучыць прыгожа. Трэба запісаць, каб не забыцца. А на знак падзякі за такі бліскучы дыягназ дазвольце запрасіць вас сёння на спатканне, на рандэву, як гавораць французы. Улічваючы вашу непрадказальную натуру, я прапаную вам філармонію і рэстаран. Выбар за вамі, хаця я схіляюся да апошняга, бо там працуюць усе лепшыя прадстаўнікі першага. *(Выбягае, пакінуўшы Пульхерыю Фемістоклаўну разгубленай)* **Vale, matrona.** Да сустрэчы вечарам, адгаворак не прымаю.

**Служба аховы.** *(уваходзіць)* Гэты вар'ят ізноў прыцягнуў кальмараў, чырвонай рыбы, старога віна і заплеснелага сыру Ракфору, які я выкінула, бо ён так непрыгожа выглядае. Заявіў, што вельмі трывожыцца, бо кажа, Максім схуднеў.

**Апякунка.** І гэта так?

**Служба аховы.** Ды што вы? Ён ужо амаль хадзіць не можа, толькі есць і спіць. Учора гэты прыносіў яму жывых мышак са звязанымі хвастамі, дык яны дарэмна бегалі па ім, ён і вока не адкрыў, толькі муркаў задаволена.

**Апякунка.** А колькі ён важыць?

**Служба аховы.** Дваццаць кіль і пяцьдзесят грамаў.

**Апякунка.** Перастаньце здзекавацца з жывёліны, бо хутка таварыства аховы жывёлаў падасць на нас у суд. Памятаеце падобную справу ў Англіі?

**Служба аховы.** Дык там свінню перакармілі. Прыйшлося купляць для той бегавую дарожку.

**Апякунка.** А хоць і вярблюда. Гэта ж кот. Блізкі сябра чалавека. Ён жа гадуецца разам з намі, і ведае пра нас ўсё добрае і не вельмі.

**Служба аховы.** Невыпадкова А. Чэхаў сказаў, што добраму чалавеку павінна быць сорамна нават перад сабакам. А цяпер і перад катом.

**Апякунка.** Гэта калі да іх адносіцца па-чалавечы.

**Служба аховы.** Дык кот і працуе поруч з людзьмі .

**Апякунка.** Сапраўды, ката часта прымалі на службу. Так, зусім нядаўна паведамілі, што ў рэзідэнцыі брытанскага прэм'ера на Даўнінг Стрыт, 10, у Лондане завяліся пацукі. Паколькі прэм'ер Дэвід Камерон мышэй не ловіць, то 15 лютага ў рэзідэнцыю прыехаў прыгажун кілер пацукоў Лары. Да гэтага ў 1924 годзе ў рэзідэнцыі жыў кот Казначэй Біл
( *так ката звалі*). Потым быў кот Пітэр, які пражыў 17 гадоў, ведаў самога Чэрчыля.Пры Маргарэт Тэтчэр мышапудам быў кот Хэмфры.

**Служба аховы.** Нам на лекцыях казалі, што кот не належыць прэм'еру, ён лічыцца дзяржаўным служачым. У 1994 годзе ката абвінавацілі ў тым, што ён разбурыў гняздо малінаўкі, і яго адправілі ў адстаўку. Пасля гэтага ката ў рэзідэнцыі не было, вось чаму мышы распладзіліся, іх нават па тэлевізары паказвалі. Менавіта таму і запрасілі Лары, ката-бадзягу, караля вуліц, які прыступіў да выканання сваіх абавязкаў.У дзень пераезду нават падрапаў журналіста, які хацеў узяць у яго інтэрв'ю.

**Апякунка.** Так коты (скоты) достигают величия.

**Служба аховы.** Вядома, што і кот можа свіннёю стаць. Асабліва калі гэтаму паспрыяюць людзі. Пра гэта ўжо даўным-даўно напісана, згадаем байку "Кот на лаўрах" К. Крапівы. Так што і тут беларусы першыя, англічане толькі ў перaймалі нас:

У хаце ад мышэй вялікі неспакой,
І каб пазбавіцца ад прыкрасці такой,
Цімох набыў Ката,
Каток удаўся – любата:
Вясёлы, жвавы, дападкі.
За ноч, калі святло пагасне,

Абыдзе ўсе куткі.
Як толькі мыш дзе шасне,
Ён – тут як тут,
І мышцы той ужо капут
У вострых кіпцюрах.
Так на мышэй нагнаў ён страх,
Што ў хаце стала ціхата…
І адпачынак для Ката.
Ад Цімаха Кату пашана,
Ад гаспадыні – ласка:
На снеданне яму смятана,
Кусочак добры мяска.
Кот на выгодзе раздурэў,
Ён растаўсцеў і раздабрэў
І стаў не Кот – Кацішча.
Яму ўжо цяжка ўзлезці на гарышча.
Пакуль Цімох Катом сваім хваліўся,
Зноў мышы ў хаце завяліся,
Але іх піску Кот нібы не чуе:
На печы ён і днюе і начуе.
Сядзіць, наставіўшы вусішчы
І вылупіўшы ліхтары, -
Хоць ты партрэт з яго твары.
Не меўшы сораму ні крышку,
Патрэбаваў, каб штодзень мышку
Яму давалі на абед.
Каб, з'еўшы, ён з прыемнасцю ўявіў,
Што сам яе злавіў.
Бязглуздзіца, якой не бачыў свет,
Але давалі, здабывалі.
Каб гонар і прэстыж Ката падняць вышэй,
Сам Гаспадар лавіў яму мышэй
На кухні і ў падвале.

**З'ява дванаццатая**

*(Другі зяць і сакратар рэгіянальнага аддзялення Саюза пісьменнікаў).*

**Сакратар.** Ну і што вы хацелі? *(убок)* Яшчэ адзін непрызнаны геній. Як яны абрыдлі. Ну што ў вас, раман, п'еса, вершы?

**Другі зяць.** Што? Не разумею.

**Сакратар.** Ну што вы пішыце? Вы паэт, празаік, драматург?

**Другі зяць.** Не. Я зяць.

**Сакратар.** Слава Богу. Хоць адзін нармальны чалавек за апошні час. А што вы хацелі?

**Другі зяць.** Я хачу ўвайсці ў ваш **попечительский Совет**, каб падтрымаць культуру на гэтым складаным этапе эвалюцыі грамадства.

**Сакратар.** А што вы хочаце ў замен?

**Другі зяць.** Нічога. Задарма. Бо я з дзяцінства ўзгадаваны на лепшых узорах роднай літаратуры.

**Сакратар.** Гэта і відаць. А прабачце, можна пытанне задаць?

**Другі зяць.** Давайце.

**Сакратар.** А вы часам не наркаман? Здаровы душою? Спраўка ёсць?

**Другі зяць.** Ёсць. Ёсць. Во колькі. Але і ад вас не зашкодзіць.

**Сакратар.** Дык вы хочаце ўступіць у наш саюз? А якія кніжкі ў вас ёсць?

**Другі зяць.** Адна ёсць. Ашчадная. І вельмі тоўстая. Нават і на замежнай мове. Галоўным чынам ангельскай.

**Сакратар.** Гэта вельмі важна. Мы ўсё ж такі інтэрнацыяналісты. Але ж трэба прытрымлівацца і пэўных патрабаванняў.

**Другі зяць.** За гэта не хвалюйцеся. Творчы выкарыстаўшы вопыт Аляксандра Дзюма ці Данцовай з іх літаратурнымі неграмі, мы гэта зробім за пару месяцаў. Існуе цэлая армія пісакаў, здольных гатаваць здаровую і легкаўжывальную страву для сну і духоўнай летаргіі. Пра гэта мне расказаў мой швагер, вельмі разумны чалавек, ён на культурных курсах вучыцца. Хай гэта не новае і геніяльнае, але ідэя і прыстойны стыль гарантуюцца. І ў нас такіх кухароў замест повара хапае. І псеўданім ужо ў нашага праекта ёсць.

**Сакратар.** Які ж, дазвольце пацікавіцца?

**Другі зяць.** Глінскі-Папялінскі. А ад вас мне проста патрэбен членскі білет для майго слыннага родзіча. А гэта вам на выданне вашага поўнага збору твораў *(дае грошы).*

**Сакратар. (***Глядзіць на іх, перабірае).* Ой, сапраўдныя. А як вы хочаце атрымаць білет? Індывідуальна ці ўрачыста? Падумайце, за намі не заржавее.

**Другі зяць.** Гэта не істотна. Хаця, пачакайце, нават вельмі важна. Не будзем прыводзіць вялікую новую канферэнцыю, і гэта ўсё вельмі спатрэбіцца.

**Сакратар.** А давайце мы разам напішам кнігу пра вашага слыннага родзіча, на ўзор згаданага вамі кухара.

**Другі заяц.** А што, цікава-цікава…

**Сакратар.** Правільна. Вельмі разумна. Што б вы хацелі? У сэнсе – які жанр?

**Другі заяц.** Што?

**Сакратар.** Ну, паэма, мадрыгал, санет…

**Другі заяц.** А гэта што за звер?

**Сакратар.** Ну, як вам растлумачыць? Санет. Гэта форма верша, у якой чатырнаццаць радкоў… Карацей кажучы, два катрэны і дзве тэрцыны. Зразумела?

**Другі заяц.** Угу. А яшчэ якія? Назавіце паіменна.

**Сакратар.** Раман, балада, песня…

**Другі заяц.**

Гэта тыпу:

**Кис-кис:**

**Вот и вся музыка.**
**Мяу-мяу:**
**Вот и все слова.**

**Сакратар.** Ну, нешта падобнае.

**Другі заяц.** Не, давайце іншае.

**Сакратар.** Жыццяпіс? Біяграфія жывапісная?

**Другі заяц.** Во-во. Давайце аўтабіяграфію. Тыпу **«Былое и думы»**, **“Роздум на апошнім перагоне”**, **“Воспоминания и размышления”.**

**Сакратар.** Якое выданне? Яскравае? Шматкаляровае?

**Другі заяц.** Канешне! Вось я чуў у дзяцінстве казку “Каток – залаты лабок”.

**Сакратар.** Дык мы выдадзім трылогію. Як у Льва Мікалаевіча Талстога: **“Детство”, “Отрочество”, “Юность”.**

**Другі заяц.** Пра гэта ён не памятае, ды і гэта не вельмі цікава.

**Сакратар.** Гм… Тады пачнем са сталасці, раскрыем філасофію змагання за ідэалы юнацтва. А ён хто – герой, кіраўнік высокага ўзроўню, філосаф, падарожнік?

**Другі заяц.** Усяго патроху: і філосаф, і бадзяга. А ў кнігу ўключыце паболей ілюстрацый, пейзажаў, меней слоў. Хто ў наш час чытае? Многія ўжо і не ўмеюць. Толькі ж выдаць пад ягоным прозвішчам.

**Сакратар.** Зразумела. Калі пачнем?

**Другі заяц.** Ужо пачалі.

**Сакратар.** Для таго, каб мець факты для напісання мастацкай біяграфіі, зайдзіце ў мясцовы гістарычны архіў, дзе сядзіць архіварыюс і геральдык у адной асобе.

**Другі заяц.** Хто?

**Сакратар.** Геральдык. Спецыяліст па гербах…

**Другі заяц.** Угу.

**Сакратар.** Ён вам складзе генеалагічнае дрэва героя.

**Другі заяц.** Якое дрэва? Нашто мне дрэва?

**Сакратар.** Ну, гісторыя роду. Я вам тут напісаў на паперцы.

### З'ява трынаццатая

*(Першы заяц і Бландынка)*

**Бландынка.** *(какетліва)* А я да вас. Па аб'яве.

**Першы заяц.** Якой яшчэ аб'яве *(паглядае на яе з цікавасцю).* Слухаю вас уважліва.

**Бландынка.** Ну вось яна. *(Чытае газету).* Салідны сімпатычны кот, здаровы і энергічны, шукае маладую зграбную сяброўку для ўцех і з магчымай перспектывай працягу свайго племені? Гэта ж, як мне здаецца, прапанова рукі і сэрца. І дзе гэты сімпатычны нястрыманы мужчына, якога я амаль ужо кахаю?

**Першы заяц.** *(паглядвае з яшчэ большай цікавасцю)* Канешне, канешне пісалі *(аблізваецца, сам сабе гаворыць).* Гэта ж я хацеў, каб ў Масксіма з'явіўся сынок, ну, на ўсялякі выпадак. Ды каб ён не знік сам у пошуках нявесты. (*да бландынкі).* Кхе, кхе. Дзякуй, што адгукнуліся.

**Бландынка.** А дзе ж аб'ект маёй пажадлівасці, дзе ён, таямнічы містар Х або Ху?

**Першы заяц.** На месцы. Там, дзе і трэба быць, у спальні. А дзе ж сяброўка нашага мачо? Нешта я яе не бачу.

**Бландынка.** А вы ўважліва паглядзіце *(круціцца перад ім, какетнічае).*

**Першы заяц.** Нешта не бачу. Я бачу толькі вас. Кроў не туды б'ецца, не саабражаю.

**Бландынка.** А кот – гэта вы?

**Першы заяц.** Як я?!

**Бландынка.** Тады ж дзе суб'ект будучага шчасця?

**Першы заяц.** Ах, вы да Максіма? Цікава, цікава. Пахадзіўшы тут з разумнымі людзьмі, я магу сказаць словамі М. Твэна: "Калі б чалавека злучылі з катом, то гэта палепшыла б чалавека, але пагоршыла б ката".

**Бландынка.** Там імя не напісана. Ды і гэта не істотна, як таго ката завуць. Мне галоўнае – каб быў здаровы і багаты і пры гэтым сапраўдны джэнтльмэн.

**Першы зяць** Я ведаю, хто такі джэнтльмэн.

**Бландынка.** Гэта чалавек, які наступіўшы на ката ўцемры, называе ката катом.

**Першы зяць.** Якая вы разумная.

**Бландынка.** Калі жанчыну хваляць за розум, то, значыць, справы ў яе вельмі паганыя.

**Першы зяць**. Я таксама джэнтльтмэн, бо на культурныя курсы запісаўся. Нас вучаць, як даму запрашаць, віно налiваць, мы іграем *(доўга думае)* у ролевыя гульні. Вось скажыце, у якой руцэ павінен трымаць інтэлігент бакал з віном, калі ў правай ён трымае сасіску?

**Бландынка (** *здзіўлена глядзіць на яго***)** Ваў!

**Першы зяць** Я вам потым растлумачу.

**Бландынка.** А мне ўсё роўна. Як сказаў вялікі Эразм з Ратэрдама…

**Першы зяць**. Адкуль, адкуль?

**Бландынка.** Ратэрдама. Як сказаў вялікі Эразм, ноччу ўсе кошкі аднолькавыя, а каты − тым болей. А я прыгожая, вясёлая, маю ўсе даведкі, спраўкі. Вось яны.

**Першы зяць.** Не, не трэба. І так усё відаць (*бландынка ходзіць па сцэне, нібы тая котка).* Нашто паперы. Хаця хто яго ведае. Трэба дэталёва разабрацца. Давайце пройдзем у спальню і там паставім усе кропкі…

**Бландынка.** Над і?

**Першы зяць.** Не толькі *(абдымае яе за стан і вядзе.*

**Бландынка.** Даўно пара**.** А то нейкія каты… Я іх баюся.

*У абдымках ідуці за сцэну. Праз пэўны час гучыць голас:)*

**Першы зяць**. Жанчыны, бойцеся мужчын, а не катоў! Ой, ёй!

Дзякуй, Максіме.

### З'ява чатырнаццатая

*(Другі зяць і архіварыюс- геральдык).*

**Архіварыюс.** Слухаю вас.

**Другі зяць.** Пане Геральдык? Мне трэба *(чытае)* генеалагічнае дрэва…і герб.

**Архіварыюс.** Для каго?

**Другі зяць.** Для слаўнага прадстаўніка дзелавых колаў. Нам патрэбна з дакументамі, з граматамі і на велізарнай карціне, каб можна на сцену павесіць. І спраўку ў рукі, грошай не пашкадую.

**Архіварыюс.** Зробім. Добра, добра. Гэта наш профіль. Скажыце, з якіх слаёў паходзіць заказчык?

**Другі зяць.** Што за слаі?

**Архіварыюс.** Ну, з сялян, з купцоў, са шляхты?

**Другі зяць.** Гм, гм. Са шляхты, бо ягоная гаспадыня - шляхцянка.

**Архіварыюс.** Хто, прабачце?

**Другі зяць.** Гэта я так, думаю ўголас.

**Архіварыюс.** Раз са шляхты, то пэўна ж мае радавод, слыннае прозвішча і герб.

**Другі зяць.** Прозвішча гучнае**:** Глінскі-Папялінскі, бо на печы сядзеў.

**Архіварыюс.** Гучыць шляхотна. Цікава, цікава. А герб?

**Другі зяць.** А што гэта такое? Мяне ўжо другі раз пытаюць.

**Архіварыюс.** Ну, бачылі ў рыцараў на шчытах намаляваны выявы – лось, тур, змей, воўк, падкова, меч, замак.

**Другі зяць.** А-а-а. у кіне бачыў. Тады хутчэй за ўсё мыш. І рысь.

**Архіварыюс.** А поле якое?

**Другі зяць.** А поле, як поле, калгаснае, г.зн. маё.

**Архіварыюс.** Ды не, вы не зразумелі. Поле на шчыце ў геральдыцы значыць колер – чырвоны, белы, сіні.

**Другі зяць.** Белы. Ён малако любіць.Значыць, герб такі – рысь, мыш, малако.

**Архіварыюс.** Цікава, цікава. Якім жа законам геральдыкі мусіць адпавядаць гэты герб? Але бог з ім, мы пашукаем. Зайдзіце праз паўгода.

**Другі зяць.** Што? Нам трэба тэрмінова ( *суне грошы).*

**Архіварыюс.** Праз тры месяцы (*зяць ізноў суне грошы).* Праз тры тыдні. *(зяць ізноў суне грошы).* Паслязаўтра.

**Другі зяць.** Ну, вось і добра.

**Архіварыюс.** Скажыце, а дзе знаходзіцца радавое памесце шляхціца?

**Другі зяць.** *(глядзіць здзіўлена, паціскае плячыма).* Што-што?

**Архіварыюс.** Ну, сядзіба, рэзідэнцыя продкаў, замак.

**Другі зяць.** А, печ! На Палессі замак.

**Архіварыюс.** Не трэба даказваць, што замак Печ збудаваны ў адным годзе з Іерусалімам? Не? Ну і цудоўненька. Для дарагога госця ўсё зробім.

**Другі заяц.** Толькі каб прыгожа. І абавязкова і мыш, і рысь, і печ, і стрэлы, бо наш шляхецкі род вельмі старажытны. А герб я на машыну намалюю. Хай усе зайдросцяць. Заяц – князь. Я з гербам. Усе здохнуць ад зайздрасці.

**Архіварыюс.** Можа партрэты продкаў трэба? Старажытныя, шляхецкія. Зробім, і вельмі прыгожа.

**Другі заяц.** Потым галерэю арганізуем. І бібліятэку купім.

## З'ява пятнаццатая

*(Першы заяц прапіхваецца праз натоўп наведваннікаў з кветкамі, шампанскім і цукеркамі ў руках. Гармідар, шум, крыкі).*

**Галасы.**
- Куды прэшся?
- Трымайце яго!
- Нагу аддавілі!
- Не пушчаць!
- Я ветэран і то стаю ў чарзе!
- Гусак здыхае!
- Казёл-наркаман табакі просіць.

**Першы заяц.** *(прабраўся ў кабінет)* Маё жыццё ў вашых руках. Без вас, без вашай чароўнай усмешкі я не хачу і не магу жыць. Калі адмовіце, пайду павешуся. Не, утаплюся.

**Апякунка.** А! Гэта ты. Дык ты яшчэ на тым тыдні рашыў павесіцца.

**Першы заяц.** То была рэпетыцыя. Цяпер канчаткова. Злітуйцеся. Ратуйце няшчасную душу.

**Апякунка.** Нельга ратаваць тое, чаго няма.

**Першы заяц.** (*падае на калені)* Прашу вашай рукі і сэрца. На руках насіць буду. Ногі мыць і ваду піць. Буду для вас залатой рыбкай…

**Апякунка**. Ты ў мяне сёння мабыць васьмідзесяты…

**Служба аховы.** Восемдзесят чацвёрты, калі гаварыць дакладна. Самыя прыгожыя і не вельмі мужчыны ад 18 да 88 гадоў зранку да вечара прапаноўваюць вам сябе ў якасці мужа і кожны абяцае ашчасліваць.

**Апякунка.** Вось-вось! І ўсе крычалі, што памруць, калі я ім адмоўлю, не стану іх жонкай.

**Служба аховы.** Але пакуль ніводзін з іх не толькі ў больніцу не патрапіў, але нават каплі валяр'янавыя не спатрэбіліся.

**Апякунка.** Гэта ж трэба, за сорак гадоў жыцця на гэтым свеце ніводнага мужчыну ці хлопца не зацікавіла, нікому не была патрэбнай, а тут за няпоўны тыдзень амаль сто кавалераў. Анжэліна Джолі пазайздройсціць, ці Семяновіч з яе цыцкамі.

**Першы заяц.** Да вы што? Вы ў сто разоў прыгажэйшая за гэты сілікон. А ўсе жаніхі – гэта мярзотнікі, сцервятнікі, што зляцеліся на баль. Гэта махляры, а не мужчыны. Нам на культурных курсах расказвалі пра Пенелопу, якую атакавалі жаніхі…

**Апякунка.** А ты, значыць, Адысей? І будзеш мяне ратаваць? А жаніхоў паб'еш з лука?

**Першы заяц.** Адысей. Я ўсіх канкурэнтаў разганю, бо люблю вас і хачу ажаніцца з вамі *(уваходзяць два пенсіянеры з жыўнасцю ў руках).*

**Апякунка.** А гэта што за цырк? Што за пудзілы? Сваты ці жаніхі?

**Першы заяц.** Не, гэта не са мною. Я сам па сабе. Гэта не мае.

**Апякунка.** Вы да ўрача? Ці таксама жаніцца?

**Галасы**. А што скажаце, то і зробім. Мы ж яшчэ ого-го, а за такія грошы, за такія перспектывы на ўсё гатовы…

**Апякунка.** Усе вон! Вон! І венік забяры, я папярэджвала (*шпурляе букет, усе спалохана разбягаюцца).* Вымятайцеся адсюль! Разам са скацінай і віскасам. Кіна больш не будзе.

### З'ява шаснаццатая

*(Другі заяц і старшыня прадпрымальнікаў)*

**Другі заяц.** Рады вітаць вас, дарагі калега.

**Старшыня.** Вітаю, вітаю.

**Другі заяц.** Дзякуй, дзякуй. Хаця няма часу расседжвацца. **Время подобно железу горящему, которое, ежели остынет, неудобно к кованию будет.**

**Старшыня.** *(здзіўлена паглядае)* Тым болей, тым болей. Слухаю вас уважліва.

**Другі заяц.** Хачу, калега, каб ваша шаноўная гільдыя пабагацела на аднаго прыстойнага члена.

**Старшыня.** Цікава, цікава. І які ў яго, нашага будучага калегі, капітал? Калі вы загаварылі на старарускай мове, то павінны ведаць, што да першай гільдыі адносіліся купцы з абаротам мільён рублёў,

г.зн. па цяперашніх цэнах больш чым мільён еўра. Ваш шаноўны прадстаўнік можа ўявіць падобныя лічбы?

**Другі зяць.** Наконт фантазіі не ведаю, мне здаецца, што ягоныя ўяўленні далей смачных сардэлек і марта месяца не ідуць…

**Старшыня.** *(здзекліва)* Я так і думаў…

**Другі зяць.** Навошта яму ўяўляць, калі яны ёсць на яве і да іх лёгка дакрануцца лапамі.

**Старшыня.** Дакрануцца?! Пра лапы не будзем, пры такіх даходах. Гм, гм, слухаю вельмі ўважліва.

**Другі зяць.** Дык вось, мой падапечны атрымаў вялікую спадчыну і зараз разважае, куды ўкласці грошы, каб іх стала болей.

**Старшыня.** Сапраўды, вельмі разумна. Грошы ідуць толькі да грошаў, таму бедныя – бяднеюць, багатыя – багацеюць. Што зробіш, закон прыроды.

**Другі зяць.** Абсалютна з вамі згодны.

**Старшыня.** Гэты ўсё роўна, што марскую ваду піць. Чым болей п’еш, тым болей хочацца. Але смагу ніколі не спатоліш.

**Другі зяць.** Пра ваду не ведаю, пра гарэлку знаю. Можна, канешне, грошы пакласці і ў банк. Але цяпер такія часы… Усялякія МММ, Хапёр-інвест…дурням заўсёды рады.

**Старшыня.** Чаму, поле цудаў ніхто і ніколі не адмяняў.

**Другі зяць.** Ды і жадаючых выйграць на ім ва ўсе часы была прыкладна аднолькавая колькасць.

**Старшыня.** Значыць, на біржы наш кліент іграць адмаўляецца?

**Другі зяць.** Відаць. Нам бы нешта такое, што можна памацаць, патрымаць у лапах.

**Старшыня.** Фі, што вы ізноў пра лапы… Я люблю крэпкае слоўца, але ў нашай паважанай установе.

**Другі зяць.** Вінаваты, памроілася.

**Старшыня.** Можа вы хочаце падкрэсліць характар свайго кліента, ягоную учэпістасць, што з ягоных лап, цьфу на вас, з рук нічога не вырвецца, калі ўжо патрапілася.

**Другі зяць.** Папаўся жучку ў панскую ручку… А што вы можаце прапанаваць? Якую сферу дзейнасці?

**Старшыня.** А да чаго ў яго сэрца схіляецца?

**Другі зяць.** А вы рамантык. Дзіўна такога сустракаць у гэтым жорсткім кодле варожасці і канкурэнцыі.

**Старшыня.** Ну што вы, мы ж не на дзікім захадзе.

**Другі зяць.** Там знішчаюць адкрыта, а тут ласкава, сардэчна…

**Старшыня.** Прыстойнасць і высакароднасць у нас заўсёды на першым месцы.

**Другі зяць.** З'ядуць і не абліжуцца, бо рот вытруць сурвэткай.

**Старшыня.** Прыкладна так. Дык чым бы вы хацелі заняцца?

**Другі зяць.** Я б аўтамабілямі. Але гаворка ідзе, на жаль, не пра мяне *(уздыхае).* Ладна. Давайце рыбу і наогул, марскія прадукты. Во да іх ён мае выключны імпэт. Давайце рыбу. З яе і пачынаў ягоны сябра.

**Старшыня.** Мне патрэбны доказы, што наш будучы калега мае грошы для заняткаў камерцыяй. *(Другі зяць паказвае паперы).*

Ого! *(стрымліваецца)* Гэта значыць, добра.

**Другі зяць.** А дзе будуць нашы будучыя партнёры?

**Старшыня.** Шпротаў і ікры ў час перабудовы не было ні ў Рызе, ні ў Мурманску, ні ў Хабараўску, а ў Бабруйску яны былі.

**Другі зяць.** Зразумела. Французскія манахі лічылі бабра рыбінай.

**Старшыня.** Навошта?

**Другі зяць.** Каб можна было яго з'есці без граху ў пост.

**Старшыня.** Лагічна. У яго ж ёсць хвост і ён жыве ў вадзе.

**Другі зяць.** Мы будзем лавіць у Жыткавічах не толькі карпа, але і сялёдку, і палтуса. Робяць жа крабавыя палачкі з хека і мойвы. А баброў будзем прадаваць як кенгуру. А то іх развялося, плаціну нядаўна разбурылі, паўраёна затапілі. А замест амараў і лобстэраў будзем пастаўляць нашых родных ракаў.

**Старшыня.** А вы ведаеце, дзе яны зімуюць?

**Другі зяць.** Дзе не зліваюць адыходы хіміі.

**Старшыня.** Добра, што трапляюцца разумныя людзі. Як назваць фірму?

**Другі зяць.** Як назваць? Як назваць? Проста і класічна: "Хвост і кляшня". Не, жартую, "Maksim and company" – "Мэксім унд сябры". "Глінскі-фіш". Ён любіць фаршыраваную рыбу. Вось вам запрашэнне на навуковую канферэнцыю, якую мы праводзім з нагоды свята.

**Старшыня.** Абавязкова буду. Перадайце мае вітанні новаму купцу.

### З'ява сямнаццатая

*(Маналог зяця).*

**Першы зяць.** (*выходзіць на авансцэну*) Усё прапала. Не дапамаглі ні грошы, ні мой прыроджаны розум, ні мая красата, ні варожка, ні сваха. Усё ляснула, і грошы, і мантаж, і *фальксваген,* і

пентхаўз, і дача з відам на пачвару. **Собака вернулась к своей блевотине**. Як на курсах гаварылі:

Сюда я больше не ездец!
Пойду искать по свету,
Где оскорбленному есть чувству уголок.
Карету мне! Карету!

*(павольна ідзе, звесіўшы галаву, раптам спыняецца)*

Дык што, усё застаецца таму дурню, зяцю нумар два? Ён ужо і канферэнцыю навуковую зладзіў, вучоных сабраў, дзеячоў культуры запрасіў, каб ката прызнаць чалавекам. А вось табе, рана радуешся. Не бываць такому. Як сказаў класік, **Так не доставайся же ты никому**. Украду Максіма і фіг усім вам. Максім, кіць-кіць, кць-кць-кць. Ідзі сюды, я табе крабаў прынёс. І валяр'янкі. (*шукае пад сталом і святло тухне).* А сам я віскі вып'ю. можа, у апошні раз. Палюбіў я гэтую шатландскую самагонку. І цябе, Максім. Харошы ты чалавек.

### З'ява васямнаццатая

*(Урачыстае адкрыццё канферэнцыі).*

**Рэктар.** Шаноўныя калегі! Сябры! Лэдзі і джэнтльмены! Господа! Панове! На маю долю выпаў вялікі гонар – мне пашчасціла адкрыць міжнародную навуковую канферэнцыю "Кот і чалавек: праблемы і перспектывы ўзаемадзеяння". Мы рады вітаць вучоных з усёй Еўропы, але асабліва прадстаўнікоў Егіпта і Індыі, краін, адкуль паходзіць герой нашага сённяшняга кангрэсу *(апладысменты).* Дазвольце сардэчна і ад усёй душы прывітаць ганаровага ўдзельніка канферэнцыі, нашага дарагога спонсара *(прозвішча заглушаецца шквалам апладысментаў; Другі зяць устае і кланяецца. Ён з велізарнай папкай, на носе акуляры).*

Работа нашага паважанага і аўтарытэтнага сімпозіўму будзе весціся традыцыйна: спачатку пленарнае пасяджэнне, затым работы ў секцыях. Па выніках работы будзе прынята адпаведнае заключэнне, таму ўжо цяпер можна падаваць свае прапановы. Усе тыя матэрыялы будуць надрукаваны ў асобным зборніку, як абяцаў нам паважаны спонсар *(апладысменты, той зноўку кланяецца).* Вечарам – банкет.

**Усе разам.** Ура! Віват.

**Рэктар.** Гісторыя гэтай дзіўнай істоты, ката, (Felis domestica па латыні) пачынаецца з далёкіх часоў, калі па зямной кулі бадзяліся дыназаўры і маманты. Аднак яны аказаліся вельмі слабымі супернікамі для нашага героя, які валодаў не столькі сілай, колькі вялікім розумам. Менавіта таму больш магутныя, але недалёкія ў

інтэлектуальным развіцці істоты і вымерлі. Таму можна сказаць, выкарыстоўваючы лексіку спартоўцаў, былі дыназаўры і каты. Засталіся апошнія. Былі маманты і каты, хто перамог, вядома ўсім. Цяпер засталіся людзі і каты. Я нічога не хачу сказаць, толькі падкрэсліваю той факт, што наш далікатны і разумны звер выйшаў у фінал.

Цяпер папрашу ўсіх кіраўнікоў секцый абазначыць тэзісна асноўныя напрамкі будучых дыскусій.

**Сакратар СП.** Наша секцыя прэзентуе "Вобраз ката ў фальклоры свету". Мы імкнемся паказаць вобраз гэтай паэтычнай і загадкавай істоты амбівалентна, бо ў ёй спалучаны, арганічна і непадзельна, вялікі гуманістычны пачатак – згадаем, іменна каты сваім мурлыканнем прыдумалі калыханку для дзяцей, і сусветнае зло – успомнім ролю, якую адыгрывае кот як спадарожнік ведзьмы або Бабы-Ягі *(апладысменты).*

**Архіварыюс.** Раскопкі, якія мы правялі ля замка Печ, дапамаглі нам даказаць, што тут яшчэ да нашай эры жыў магутны князь, у якога на гербе была печ, рысь і мыш. Усё гэта сведчыць аб высокаразвітай цывілізацыі на Палессі, дзе і быў цэнтр культуры. Адтуль і паходзіць наш паважаны і любімы Глінскі-Папялінскі. Вось дакументы *(трасе паперамі).*

**Сакратар СП.** А цяпер я прэзентую тэму "Вобраз ката ў мастацкай літаратуры, кіно і масавай песні". Тут вам не фальклорныя дрындушкі, а вялікае мастацтва: згадаем дзённікі, г.зн. споведзь вялікай душы ката Мурра з твора Гофмана, а таксама ролю ката ў стварэнні сацыяльных адносін паводле казкі Кіплінга. Подзвіг ката на Ноевым каўчэгу, калі ша герой зратаваў харчы ад мышэй.

А цяпер хачу з усімі падзяліцца вялікай радасцю. Мы знайшлі верш, напісаны нашым героем:

Пераплыўшы мора лоўка,
Кот Мурлыкавіч з'еў воўка.
Скуру вывесіў сушыць,
Каб кажух сабе пашыць.

Гэта сведчыць, што каты былі адважнымі мараходамі, і яны ваявалі з дужымі супернікамі, якіх здолелі перамагчы. Мы адкрылі гераічны эпас, напісаны нашым вялікім земляком Максімам Глінскім-Папялінскім. Гэта сапраўдная з'ява ў сусветнай культуры.

**Рэктар.** З радасцю паведамляю, што дачка нашага дарагога калегі, зяця нумар два, выйграла конкурс еўрабачання і паступіла ў школу кіно пры Галівудзе.

**Лідар партыі Мур-Мур.** Я прадстаўляю тэзіс аб выключнай ролі ката ў развіцці сусветнай цывілізацыі, бо менавіта кот быў сімвалам свабоды і незалежнасці, да якой дарэмна імкнулася чалавецтва за апошнія пяць тысяч гадоў. Невыпадкова ягоная выява была на сцягах паўстанцаў Спартака, а славутае **Я гуляю сам сабе па сваіх сцяжынках** назаўсёды стане сімвалам пошукаў чалавекам кацінага шчасця. Як казаў нобелеўскі лаўрэат Сяргей Капіца, **собрать стадо из баранов легко, трудно собрать стадо из кошек.**

**Супрацоўнік ДАІ.** Кот – узор для ўсіх удзельнікаў руху. Ён ніколі не п'е, нават у гаражы, не тое, што за рулём. Вочы ягоныя – гэта прыродныя флікеры, якія адбіваюць святло ноччу. Рады паведаміць усім, што Максім Глінскі-Папялінскі – пераможца конкурсу "Удзельнік руху года".

**Супрацоўніца Загса.** Кот – ідэал сямейнага жыцця. Ён гуляе толькі адзін месяц, не тое, што сучасны мужчына, які блудзіць цэлы год. У іх сем'ях па пяць-шэсць кацянят. Дзякуючы катам у нас знізіўся ўзровень разводаў. Глінскі-Папялінскі – узор сямейнага жыцця, ён у нас муж года.

**Рэктар.** Добра, на першы дзень хопіць. Заўтра мы разгледзім уклад нашага героя ў дэмаграфію, жывапіс, фізіку і хімію, а таксама малекулярную біялогію і генетыку. Вечарам у рамках нашай канферэнцыі адбудзецца абарона дысертацыі "Спецыфіка афарбоўкі катоў ва ўмовах мінімальных дозаў радыяцыі". А сёння прапаную падумаць аб тым, як увекавечыць памяць ката. Можа, стварыць яму помнік, назваць вуліцы і праспекты, ёсць жа горад Катоўск, вёска Котава. Аляксандр Македонскі назваў горад у гонар свайго каня. Давайце падумаем разам і вырашым гэтую складанейшую навуковую праблему *(апладысменты).*

*Да другога зяця падыходзіць сакратар і перадае лісток паперы. Той чытае і спалохана ўсклікае:*

**Другі зяць.** Кот прапаў! Максім знік! Божа, што ж рабіць? *(Да рэктара)* Закрывай гэты бедлам. Дзе натарыюс? Папярэджваў гэты даўгарукі заграбальнік грошаў, родзіч д'ябла, што ўсё можа так трагічна скончыцца. Дзе ж ён, дарагі Максім?!

**З'ява дзевятнаццатая**

*(Усе дзеючыя асобы).*

**Натарыюс.** Я сабраў вас, каб паведаміць, што глыбокапаважаная Адэля Збароўская вярнулася з ваяжу па Старым і Новым Свеце, іншы, я спадзяюся, ёй не хутка спатрэбіцца, а таму

адмяняе свой папярэдні тэстамент і жадае ўсім героям здароўя і поспехаў у асабістым жыцці. Асабліва яе ўсцешыла прадпрымальніцкая хватка і нечаканая крэатыўнасць некаторых асоб. Таму не выключаецца, што новы тэстамент іх не праміне. Любіце адзін аднаго!

*Нямая сцэна паўтарае загалоўную.*

**Заслона**